


Залукі ў Гародні → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Беларускае свята → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3294) Год LXIV | Беласток, 30 чэрвеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Крыначка прыцягвае

**Пра Крыначку на Гайнаўшчыне ведаюць не толькі праваслаўныя вернікі, якія масава наведваюць гэтае святое месца ў Белавежскай пушчы. Узведзены там прыгожая царква святых братоў мучанікаў Макавеяў, маці іх Саламіі і настаўніка Елезара і часоўня каля крыніцы, у якой лячэбныя якасці. Пасля багаслужбаў на трэці дзень Святой Тройцы ў Крыначцы гайнавяне адпачываюць у асабліва святочным настроі.**





У гэтым годзе святкаванні ў Крыначцы праходзілі 17 і 18 чэрвеня, на другі і трэці дзень Святой Тройцы. Пасля абеду 18 чэрвеня ў гарадскім амфітэатры ў Гайнаўцы Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў супрацы з Гайнаўскім домам культуры наладзілі беларускі народны фэст «Крыначка», які ўжо мае амаль дваццацігадовую традыцыю. У час фэсту займальна запрэзентаваліся калектывы Гайнаўскага дома культуры, гурты з Беластока, Нараўкі, Гарадка і Ваўкавыска на Беларусі.

На трэці дзень Святой Тройцы было вельмі цёпла і сонечна і таму вернікі дабіраліся ў Крыначку не толькі на аўтамабілях, але таксама на веласіпедах і пяшком. Малітвы ў аўторак у час другой літургіі ўзначальвалі мітрапаліт уладзіміра-валынскі і ковельскі Уладзімір і епіскап гайнаўскі Павел у саслужэнні шматлікіх святароў і ў прысутнасці многіх вернікаў. Епіскапы з Польшчы і Украіны ўзначалілі таксама малітвы ў час усяночнага багаслужэння, адвячоркам у панядзелак. На яго прыбыло пешае паломніцтва са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы. У ім святкаванні Святой Тройцы з'яўляецца галоўным святам і ўзначальваў іх на першы дзень таксама епіскап Павел. 18 чэрвеня ў Крыначцы ў збудаваным побач крыніцы калодзежы асвячалася вада. Вернікі бралі ваду з сабой, пілі яе і абмывалі ёю хворыя часткі цела. Сабраныя заўважылі, што ў Крыначцы апошнім часам выкананых было многа рамонтных прац. Прыгожа былі адраманаваны царква, часоўня і ўпарадкавана тэрыторыя вакол іх. Настаяцелем Дубінскага прыхода, да якога належыць гэтае месца ў пушчы, амаль да канца мінулага года быў протаіерэй Мікалай Кулік. Яго замяніў цяпер протаіерэй Андрэй Буслоўскі, шматгадовы настаўнік Божага закону ў Гайнаўскім белліцэі і апякун Брацтва праваслаўнай моладзі, якое дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. У час святкавання ў Крыначцы было відаць многа моладзі, якая абслугоўвала вернікаў. У айца Андрэя таксама ёсць планы наконт Крыначкі. Зараз збіраюцца сродкі, каб давесці ў Крыначку электрычную энергію. Гісторыя гэтага месца пачынаецца з пасялення ў Белавежскай пушчы манахаў, якія ўцяклі з Кіева ад татараў. Ад мясцовага насельніцтва можна даведацца пра аздараўленні хворых, якія напіліся вады з крыніцы ў Крыначцы або абмылі ёю хворыя месцы. Я ўчуў аповед пра чалавека, які крадком прыязджаў у Крыначку, паралізў праз дзіру ў агародках, набіраў ваду з калодзежа і прамываў ёю шчаку. Такім спосабам удалося яму вылечыць пухліну, якая паявілася на шчацэ.

Ужо каля дваццаці гадоў пасля святкаванняў у Крыначцы арганізуецца ў Гайнаўцы беларускі фэст «Крыначка». 18 чэрвеня пасля багаслужбаў у лясной царкве гайнавяне паабедалі і разам са сваімі гасцямі падаліся ў амфітэатр. Тут маглі паслухаць беларускія песні ў выкананні членаў лепшых калектываў і салістаў. Беларускі народны фэст «Крыначка» адкрылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень, які прывітаў дырэктара Гайнаўскага белліцэя і заадно раднага Сейміка Падляшскага ваяводства Ігара Лукашука, старшыню БГКТ Яна Сычэўскага і дырэктара ГДК Расціслава Кунцэвіча. Бургамістр прывітаў шматлікую публіку і сказаў, што мясцовыя традыцыі і беларуская культура ад стагоддзяў спадарожнічалі жыхарам Гайнаўшчыны і цяпер ім блізкія. Напомніў, што сістэматычная і цярплівая праца дзетак і моладзі ў Студыі песні ГДК дае вялікія рэзультаты, што відаць падчас выступаў на сцэне.

— Беларускі фэст адбываецца на трэці дзень Святой Тройцы. Сёння мы прапануем публіцы спевы, музыку і танцы. Сабраліся тут тыя, для каго беларуская культура, родная мова, родны кут і родная хата вельмі дарагія. Мы тут, у Гайнаўцы, вельмі добра сябе адчуваем. Калі прэзідэнт Беластока не прыходзіць на нашы беларускія імпрэзы, нам крыўдна. Гайнаўскі бургамістр Ежы Сірак ёсць з намі ў час беларускіх мерапрыемстваў, якія арганізуем у Гайнаўцы, — сказаў віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень і падзякаваў бургамістру за прыхільнасць да беларускіх ініцыятыў. Падзякаваў таксама Гайнаўскаму дому культуры і яго дырэктару за суарганізаванне беларускіх мерапрыемстваў у горадзе.

Выступы ў Гайнаўцы ўдала вяла Юліта Сушч. Першымі на сцэне амфітэатра запрэзентаваліся вучні вакальнага калектыву «Анімата», які ад двух гадоў пры Нараўскім асяродку культуры вядзе Марта Грэдаль-Іванюк, старшы інструктар спеваў у ГДК. Займальна выступілі па-беларуску выканаўцы, з якімі займаецца згаданая Марта Грэдаль-Іванюк, музычны кіраўнік Студыі песні Гайнаўскага дома культуры — Іза Карчэўская, Марыя Савіцкая, калектывы «Даміно» і «Малое ГДК».

— Мне спадабаліся выступы Студыі песні ГДК і я папрасіла бацькоў прывозіць мяне з Беластока займацца ў Гайнаўскім доме культуры. Я вельмі рада, што пані Марта прыняла мяне ў студыю і ўжо сем гадоў умела вучыць мяне спяваць, — заявіла Марыя Савіцкая з Беластока.

— У Студыі песні ГДК займаецца 30 асоб. Сёння выступілі нашы прадстаўнікі з нядаўна апрацаваным і раней падрыхтаваным рэпертуарам на беларускай мове, — сказала Марта Грэдаль-Іванюк.

За выступамі на сцэне сачылі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і дырэктар Нараўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч, якая пахваліла Марту Грэдаль-Іванюк за паспяховую працу з вучнямі Нараўскай гміны, якія спяваюць у калектыве «Анімата». Якраз калектывы і салісткі са Студыі песні ГДК і гурт «Анімата» з Нарвы сталі лаўрэатамі сёлетняга Конкурсу беларускай песні для дзетак і моладзі.

— У Крыначцы гайнавяне памаліліся, пасля паабедалі, выпілі па чарцы і прыйшлі паслухаць беларускія песні. Сонечнае і цёплае надвор'е спрыяла пабыўцы ў Крыначцы і спрыяе нашаму беларускаму фэсту, — заявіў віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень. — Спадарыня Марта Грэдаль-Іванюк асабліва патрапіць вылоўліваць вакальныя таленты і пасля вельмі ўмела кіруе развіццём іх здольнасцей. Цяпер яе Студыя песні ГДК гэта адзін з самых выдатных месцаў на Беласточчыне, дзе беларускія песні ў выкананні дзетак і школьнай моладзі прэзентуюцца на асабліва высокім узроўні.

Публіку захапіла салістка Гайнаўскага белліцэя Вераніка Пташынская, якая займаецца ў калектыве «Знічка». Займальным атрымаўся выступ хору «Цаглінкі» са Старога Ляўкова, з якім паспяхова займаецца музычны кіраўнік і заадно акампаніятар Мікола Мяжэнны.

— Мы многа выступаем летам, у тым ліку 7-8 разоў выязджаем спяваць у час мерапрыемстваў у Рэспубліцы Беларусь, — заявіў Мікола Мяжэнны.

Удала запрэзентаваўся калектыў «Расспяваны Гарадок», удзельніцы якога звярнулі ўвагу на вялікае зацікаўленне гайнавян беларускім мерапрыемствам.

— Нас у «Світанку» шэсць жанчын. Аднак калі мы самі запрапанавалі, што можам выступіць у Гайнаўцы, то нават калі дзве з нас прыхварэлі, якраз музычны кіраўнік і менеджар нашага калектыву, то трэба ўжо было прыехаць і выступіць у чатырох. Тут вялікая публіка, перад якой добра спяваецца і мы рады, што сёння тут выступаем, — заявіла Анна Бабік з калектыву «Світанак», у якім спяваюць настаўніцы Прадшколля № 14 у Беластоку, дзе вядзецца вучоба беларускай мове і культуры.

Лідар калектыву «Ас» з Беластока Славамір Трафімюк таксама сказаў, што яму добра спяваецца ў Гайнаўцы (нядаўна выступаў падчас фестывалю на панадворку Гайнаўскага белмузея). «Ас» займальна запрэзентаваўся ў амфітэатры з песнямі, якія ў нас спяваюць на вяселлях. Па-акцёрску выступіў Народны ансамбль беларускай песні і музыкі «Уладары» з Ваўкавыска на Беларусі і, так як калектыў «Ас», асабліва ўзрушыў публіку.

— Мы найчасцей апрацоўваем народныя беларускія песні. Спяваем і танцуем таксама за мяжой. Выступалі ў час фестывалю «Беларуская песня» ў Беластоку і рады запрэзентавацца ў Гайнаўцы, — заявіў музычны кіраўнік «Уладароў» Вадзім Бычак.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Беларускі анекдот

У добрай сяброўскай кампаніі пацешыў я нядаўна прысутных чарговым беларускім анекдотам. Вельмі радуюся з таго, што стаў усё часцей з'яўляцца ў народнай творчасці менавіта гэты кірунак. Анекдоты пра беларусаў, у якіх падмячаецца нешта сваё, нашае, такое, што адрознівае беларусаў ад іншых. Менавіта гэтыя адрозненні і ствараюць у іншых вобраз беларуса. Ды і ў саміх беларусаў, вядома ж, таксама. І гэта галоўнае.

Не заўсёды тыя адметнасці нам самім падабаюцца. Ну але ўбачыўшы іх праз сатыру, з'яўляецца жаданне нешта памяняць. Гэты від сатыры аказаўся неверагодна дзейсным. Даказана ўжо, наколькі пра тое напісаны цэлыя вялікія працы.

Анекдоты ў нас сталі любімым відам народнай, і не толькі народнай творчасці яшчэ з савецкіх часоў. І калі казаць пра нацыянальны іх складнік, то тады ўсё часцей пра чукчаў былі яны, ды пра грузін, малдаван... Ну і пра габрэяў, вядома ж. А як жа без іх. Яны самі пра сябе анекдоты прыдумвалі, і самым сабе распавядалі. І смяяліся ў волю ажно мышцы прэса мацнелі. І свет не здаваўся больш такім хмурым. А іншыя народы шматнацыянальнай краіны, пачуўшы і ацаніўшы гумар і сатыру тых анекдотаў, разносілі іх па другіх, па сваіх асяродках. Так і ўсе астатнія навучыліся пакрысе смяяцца з саміх сябе, ацаніўшы або прыняўшы інтуітыўна гэты адзін з вельмі эфектыўных шляхоў да самаўдасканалення.

Пра беларусаў анекдоты сталі з'яўляцца даволі позна. Спачатку пра эстонцаў пайшлі, пра іншых нашых паўночных суседзяў, і нарэшце дайшлі і да паўднёвых. І вось ужо анекдоты пра ўкраінцаў пасыпаліся такім градам, што можна было падумаць, нібыта іх доўга стрымлівалі сілай, пакуль нешта там не прарвала.

І здаецца мне, што ад Савецкага Саюза нацыянальныя рэспублікі, вось тыя пятнаццаць, якія яго ўтваралі, у дакладна такой паслядоўнасці і аддзяляліся, у якой пра іх з'яўляліся анекдоты.

Ну вось і пра беларусаў анекдоты пачалі ўсё часцей насычаць прастору гумару, сатыры, і усяго з гэтым звязанага. І вельмі цікава сачыць, як гэты вобраз мяняецца з гадамі.

Ну вось адзін з першых такіх анекдотаў:

Дзевяностыя гады, праходзіць адзін з апошніх сходнякоў яшчэ савецкіх дэпутатаў. Сярод іх ужо ёсць і такія, каго народы іх нацыянальных рэспублік абралі, каб з крамлёўскай уладай не пагаджаліся. І вось нехта на крэслы тым дэпутатам падклаў вострыя канцылярскія кнопкі.

Літовец як укалоўся, то адразу стаў крычаць, што ў СССР літоўцаў не паважаюць, і гэта правакацыя супраць яго народа, якую больш цярпець той не будзе. Грузін паабяцаў, што за гэтую правакацыю шмат хто ў Крамлі паплаціцца. А беларус сядзіць і маўчыць, нібыта нічога не здарылася. Яго пытаюць:

— А ты што, не ўкалоўся, што сядзіш нерухома?

— Укалоўся, адказвае той. Але можа так і трэба?

Памятаю, як прыкра было слухаць такі жарт, але ж народ менавіта для гэтага і прыдумаў такую праўду пра сябе, каб нешта змяніць. І вось ужо праз нейкі час чую анекдот з такім жа дакладна пачаткам як і той, толькі канцоўка іншая. І ў той другой канцоўцы беларус, як чалавек абачлівы і ўважлівы, заўважыў тую кнопку і прыняў яе ў кішэнь. Але сядзіць і не прызнаецца. Робіць выгляд, што яму баліць і ён цярпіць, а сам проста цярпліва назірае, чым гэта ўсё скончыцца.

Ну а зараз у сяброўскай кампаніі я расказаў пра беларуса, якога ў турму пасадзілі. А там сукамернікі пытаюцца ў яго: «За што? За якія злачынствы?». А той адказвае: «Сам не ведаю, хлопцы! Увесь час з мазаля свайго жыў. З працы рук сваіх. Нічога не краў, нікога не забіваў. Усё сам рабіў. Нават грошы, і тыя рабіў сам...».

І тут адзін з прысутных падказвае яўна будучы працяг: «Што і турму для сябе ён сам зрабіў сваімі рукамі?».

І ўсе пагадзіліся, што так яно і ёсць. Самі для сябе турму зрабілі і сядзім там...

Вось так нараджаюцца анекдоты.

З жыцця.

Таму з нецярпеннем чакаю, калі з'явіцца анекдот пра тое, як беларус чарговы раз усіх абдурыць і выйдзе з турмы ў свет Божы, пакінуўшы там сваіх ахоўнікаў. І вось гэта будзе і знак, што час прыйшоў і ясна распісаны ў анекдоце план дзеяння.

Я перакананы, што такі анекдот з'явіцца ў вельмі хуткім часе. А куды ж ён дзенецца...

Віктар САЗОНАЎ

# Гэты свет



Доўг — гэта доўг, трэба вярнуць або пагасіць, што, падобнае, але не зусім. Даўгі аддаюць маленькія, а вялікія іх рэгулююць. Маленькія мы ўсе. Вялікія — банкаўскія ўстановы, транснацыянальныя карпарацыі і, нарэшце, дзяржавы, кіруючыся не так чалавечай, як бесчалавечнай логікай. Першыя, пасля нараджэння павінны вывучаць таксама асноўныя словы, такія як «каморнік» і «віндыкатар». Вялікія абыдуцца без іх. Яны заўсёды разлічваюць свае даўгі, пераносячы іх своечасова і ў хвіліну... на маленькіх. Але дзякуючы гэтаму свет круціцца. Запазычанасць польскай дзяржавы толькі што перавысіла більён злотых, і ні адзін судовы каморнік або кампанія па зборы запазычанасці не заглядвае ёй у халадзільнік.

Більён злотых — гэта бэтка ў адносінах да сусветнага агульнага доўгу, разлічанага ў доларах. Яшчэ невядома, якая гэта сума за бягучы год. Тым не менш, не варта сумнявацца, што замест меншаць, ён будзе расці з году ў год. Мы ўжо ведаем, што было падкрэслена, што сусветны доўг за 2017 год склаў 233 трлн. долараў з тэндэнцыяй да росту каля 8 працэнтаў у год. У нязначнай ступені гэта ўдзел палякаў. Аднак доўг — гэта доўг, і рана ці позна мусова яго пагасіць салідарна. Мы ўжо робім гэта, нават не ведаючы пра гэта. Тэарэтычна гэтага хопіць і для нашых праўнукаў. Цікава, што сённяшняя і будучая запазычанасць — віртуальныя каштоўнасці. Фізічна яны не існуюць і ніколі не існавалі. Аднак яны будуць і будуць рэальныя як даўгі. І толькі як даўгі. У адваротным выпадку яны знікнуць з фінансавай сістэмы, як тыя дыназаўры, што пражывалі на Зямлі, «проста» некалькі соцень мільёнаў гадоў таму і загінулі. У глабальным маштабе мусіла здарыцца катастрофа, якая кардынальна змяніла біялагічную структуру Зямлі. Аналагічным чынам, радыкальныя эканамічныя змены ў цывілізацыі чалавека, калі ўсе даўгі знікнуць, верагодна, прывядуць да яе знішчэння, магчыма, да з'яўлення якасна новай цывілізацыі. Чалавецтва прысвяціла сябе гэтым даўгам з поўнай аддансцю, у ... рабства.

Прыкладам, які паказвае, як ствараюцца такія цывілізацыйныя даўгі, з'яўляецца гісторыя майго сябра. Ён дзесяць гадоў таму вырашыў паехаць на працу ў Ірландыю. Паўгода раней, калі ён не ведаў, што страціць працу ў Польшчы, аднавіў падпісаны дагавор з Польскай тэлекамунікацыяй для выкарыстання стацыянарнага тэлефона, абавязаўшыся выплачваць фіксаваныя зборы, звязаныя з яго выкарыстаннем на працягу трох гадоў запар. Зразумела, ён не чытаў інфармацыю дробным шрыфтам, што дагавор немагчыма спыніць у перыяд яго дзеяння або ў выпадку датэрміновага выхаду з яго, што прывядзе да ўзбуджэння крымінальнай справы. Перад выездам з Польшчы знаёмы, не ведаючы гэтага факту, накіраваў ліст у Тэлекамунікацыю, у якім папрасіў часовае прыпыненне дагавору. Не атрымаўшы адказу, рашыў, што гэтае пытанне вырашана, і бестурботна паехаў. Праз два гады ён прыехаў у Польшчу на некалькі дзён. З паштовай скрыні вылілся лісты. Ён склаў іх у храналагічным парадку. У першым з іх ён чытаў, што з-за трохмесячнай затрымкі абаненцкай платы яго тэлефон адключаны ад лініі, што было раўназначнае з парушэннем дамовы па віне абанента. У далейшым былі напамінкі аб пагашэнні пратэрмінаваных плацяжоў разам з працэнтнымі стаўкамі, якія прымяняліся да іх, а таксама аб уплаце фінансавага штрафу за скасаванне дагавора. Наступныя былі зусім кур'ёзныя. Запазычанасць у аплатах разглядалася як непапраўная запазычанасць і, такім чынам, прадаюцца пэўнай кампаніі па зборы даўгоў. Тая перапрадала доўг наступнай. За гэтую аперацыю яна, як і папярэдняя, загадала дадатковыя штрафы. Мой сябар заплаціў 200 злотых і, дзеля міру, нават штрафную плату за парушэнне дамовы, разам 600 злотых. З'ехаў. Праз тры гады лісты меў ад іншай кампаніі па спагнанні запазычанасці, якая выкупіла ад папярэдняй недаплаты ад сумы 1200 злотых, разлічанай ёю ў арыфметычнай прагрэсіі. Электронны суд патрабаваў ад яго некалькі тысяч злотых. Мой сябар стаў пажыццёвым рабом гэтага растучага даўгу. Не мае намеру плаціць яго, сцвярджаючы, што ён бесчалавечны. Але ні зборшчыкі даўгоў, ні судовыя выканаўцы не будуць адмаўляцца ад сваіх абавязкаў. І таму свет круціцца. Гэта ўсё больш і больш віртуальны свет. А ягоная воська — маленькія... даўжнікі.

Мірaслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Смуродныя інтарэсы

На пачатку, так як тыдзень раней, яшчэ некалькі слоў пра жару і назіранні з тым звязаныя. Афрыканскае надвор'е не дае проста дыхаць людзям і кожнай жывёле. Спёку значна лягчэй усё ж такі пераносіць у вясковай прасторы чымсьці на шостым паверсе беластоцкага мурашніка. Адчуваю тут сябе крыху як у нейкай печы, якая апрача невыноснай тэмпературы, прыносіць гук машын з вуліцы і кругласутачны, галосны шум кандыцыянераў, устаноўленых на даху суседняга маркета. У такім сусedstве... У такім сусeдстве гаворка пра вечаровы адпачынак ці здаровы сон гэта далёкая няпраўда. На мае заўвагі ў маркеце наконт празмернага гулу іхніх кандыцыянераў і патрэбе іх прыцішэння ўсе пасылаюць мяне мякка кажучы туды, куды не заглядае сонца нават у спёку. Зноў лішнія нервы і пэўна неабходнай будзе нейкая адміністрацыйная валакіта. Нават, пішучы гэтыя словы, моцны гул проста залівае маю кватэру і невыносна цісну на мазгі. От табе і прывабныя выгады гарадскога жыцця. Але тут я нікога не вінавачу, толькі сам да сябе магу мець прэтэнзію за тое, дзе выбраў месца для жыцця.

Таму з вялікай увагай адсочваю зараз і падтрымліваю пратэст жыхароў вёскі Дубічы-Асочныя і суседніх мясцовасцей, якія не хочуць у сябе пабудовы прадпрыемства, якое хоча спальваць звожаныя з усёй Польшчы шыны. Дзе Рым, а дзе Крым? — хацелася б запытацца. Чаму інвестар прыкмеціў акурат гэтую невялікую, беларускую вёску ў блізкай адлегласці да Белавежскай пушчы, цяжка здагадацца. А можа хтосьці з гмінных ці павятовых улад у імя цывілізацыйнага прагрэсу сам запрапанаваў гэткую лакалізацыю? Зараз спадарыняй войт гайнаўскай гміны мусіць быць прынята рашэнне, ці даць згоду на інвестыцыю, якая можа стаць экалагічнай бомбай на карце Гайнаўскага павета. Самае важнае, што людзі абсалютна ўпэўнены рашуча бараніць права быць гаспадарамі на сваёй зямлі і жыць так, каб было ім бяспечна, а прытым не апынуцца ў забруджаным асяроддзі. Жыхары гэтых малых беларускіх вёсак ужо спазналі, што абазначае смуродная паветра і эпідэміялагічная пагроза дзякуючы аграмадным свінакомплексам у суседнім Старым Беразове ці Шчытах. Афрыканская чума свіней нанесла самыя страты для іхняй унутранасямейнай гаспадаркі, ці для ўзнікаючага агратурызму. Фактычная ліквідацыя хатняй гадоўлі свіней на свае патрэбы стала сумнай рэальнасцю. Экалагічная сельскагаспадарчая вытворчасць і турыстычны мікрабізнес для жыхароў гэтага наваколля з'яўляецца адным са спосабаў забяспечыць сабе самастойнае жыццё–быццё, жыццё і будучыню на сваёй бацькаўшчыне, а не ў пошуках шчасця ў эміграцыйных вандроўках.

Усе вонкавыя экспертызы маюць быць завершаны да паловы ліпеня. Тады на іх аснове гмінныя ўладары прымуць рашэнне. З гісторыі такога кшталту пабудоў і інвестыцый, якія нясуць экалагічную пагрозу, здаўна вядома пра разыходжанні думак нанятых экспертаў, а лагічнымі фактамі з боку абараняючыхся мясцовых людзей. Хто плаціць, той заказвае мілую яму сэрцу і кашальку музыку. Таму тут патрэбная вялікая пільнасць жыхароў Дубіч-Асочных у сутыкненні з юрыдычна-адміністрацыйным светам папер і фармулёвак. Добра памятаем, што за адной кропкай, коскай ці слоўцам не так зразумелым могуць стаяць некарысныя паслядоўнасці. Калі прыглядаюся гэтай сітуацыі, не магу зразумець, навошта гайнаўскія гмінныя ці павятовыя ўлады выкідваюць цягам апошніх дзясяткаў гадоў немалыя тысячы грошай сваіх падаткаплацельшчыкаў на чарговыя экалагічна-турыстычныя стратэгіі мясцовага развіцця, якія ў сутыкненні з рэальнымі праблемамі з'яўляюцца нікому непатрэбнымі карткамі паперы. Гэта ж проста грошы на вецер, або на банкаўскія рахункі ўсякага роду спецыялістаў, ці знаёмых труса. Калі не верыце, пашукайце ў інтэрнэце і прачытайце, што мела ўжо здарыцца ў Гайнаўскім павеце, а што з гэтага атрымалася. Ну што ж, папера можа ўсё вытрымаць, але людзі і прырода могуць застацца ашуканымі і зняважанымі. Але я веру, што яны абароняць сваё.

Яўген ВАПА

**«Найбольш мне падабаліся сустрэчы з Алесем Дзянісавым і з фламінга ў заапарку — я іх кахаю», — сказала Патрыцыя, вучаніца з Залук, якая з 4 па 5 чэрвеня супольна са сваімі сябрамі пабывала ў Гародні. Гародняй дзеці з Залук захапіліся менавіта за сапраўдны смак марожанага і ружовых птушак, якіх кожны з нас патрабуе часам пабачыць, каб марыць і мары здзяйсняць.**

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Гародня — рок і ружовыя птушкі



**Першая праблема — пашпарт**

Ужо на самым пачатку арганізацыйных планаў пачаліся праблемы. З расказаў бацькоў і дзяцей ведаем, што перад Пашпартным бюро ў Беластоку разыгрываліся сцэны як з фільма Барэі — утвараліся даўжэзныя чэргі, а людзі збіраліся нават на гадзіну раней да адкрыцця офіса. Хто хацеў вырабіць пашпарт — сваё прачакаў. Пра гэта ўжо пазней шырока гаварылася ў падляшскіх СМІ, а чыноўнікі абяцалі паправіць жахлівую сітуацыю, а чэргі тлумачылі «brexitam» — выхадам Вялікабрытаніі з Еўрасаюза. Магчыма бацькам не хацелася б прысвячаць свайго часу на афармленне пашпартоў, але ціск ішоў з боку дзяцей.

— Мне трэба было ўчора цэлы дзень прасядзець у Пашпартным бюро і сёння едзем яшчэ раз, — сказала маці Мішкі і Майкі Станкевічаў. — Ужо другі дзень дзеці не пойдуць у школу, але ўжо трэба завяршыць справу пашпартоў.

І так цягам сакавіка, красавіка і траўня нехта з вучняў прападаў на два, тры дні, каб пазней прыйсці і паганарыцца, што ўжо чакаюць новенькіх пашпартоў. А гэтыя ў параўнанні са старымі ( напрыклад з маім) сапраўды сучасныя і адметныя — прымеркаваныя да сотай гадавіны незалежнасці Польшчы. Вось такія юбілейныя пашпарты адкрылі маладым вучням з Залук дарогу ў Гародню.

**Колькі беларускага ў Беларусі**

Вучні з Залук, якія паехалі ў Гародню, упершыню мелі магчымасць пабываць па тым баку блізкай мяжы. Беларусь вучням была як папараць-кветка, пра якую менавіта ў гэтай вёсачцы спявае ўжо трэцяе пакаленне, але ніхто яе не бачыў. Таксама і тут большасць звестак, якімі напаўняліся галоўкі і ўяўленні вучняў, былі нелегальна імпартаваныя з усходу супольна з бензінам, гарэлкай і папяросамі. Прыгранічным жыхарам стала ўжо настолькі выгадна, што вывучаць мову суседзяў таксама стала нецікавым.

— Навошта яе вучыцца? — спытаў мяне Матэвушак.

— Ну, напрыклад паедзеш за бензінам — усё зразумееш, што дзе напісана, што хто сказаў, якая цана і г.д., — патлумачыла я вучню.

— То ж яны самі прывозяць, — адказаў рашуча Матэвушак і цяжка было з ім не згадзіцца.

Калі маладое пакаленне забывае гісторыю і не чуе ўжо беларускай мовы дома, часам цяжка некаторым растлумачыць чаму варта. Проста не хапае аргументаў. Але здараюцца і такія сітуацыі, што самі вучні ўсведамляюць і спрачаюцца ўжо з іншымі. Напрыклад, бацька Эмількі сябруе з беларусам з Беларусі, з якім часта ходзяць на рыбалку. Эмілька сёлета прыняла ўдзел у літаратурным конкурсе «Дэбют», які відавочна ўплыніў яе ў гэтым, што можа ўжо адукаваць сяброў бацькі. Спрачаліся над Супраслю наконт таго, хто лепш ведае беларускую мову. Канчаткова Эмілька загадала яму сказаць беларускі алфавіт, тады той адказаў: «Рыба не ловіцца» і з усмешкай прызнаў рацыю Эмільцы.

Залукі — вельмі прыгожая вёсачка, у якой штогод адбываецца адна з цікавейшых імпрэз года — «Купалле». Вёску таксама расслаўлялі беларускія гурты








«Каліна» і малодшы — «Калінка». Аднак сённяшнім школьнікам, у хатах якіх штораз цішэй гучыць беларуская мова, не хапае кантакту з Беларуссю — з людзьмі, месцамі і сучаснымі аўтарытэтамі.

**Уяўленні контра рэчаіснасць — аб захапленнях і расчараваннях паездкай**

Хаця ўжо на вакзале сустрэў нас краязнаўца, журналіст Радыё Рацыя і былы настаўнік Віктар Парфёненка, які прывітаў усіх беларускім словам, усё-такі вучні прыкмецілі, што часцей можна пачуць расійскую. Аднак, што мяне вельмі радавала, не здаваліся і наколькі ўмелі гаварылі па-беларуску, або па-простаму.

Гародню паказаў нам таксама беларускамоўны экскурсавод і журналіст сайта Harodnia.life Руслан Кулевіч. Некаторыя не чакалі, што патрэба ажно чатыры з паловай гадзіны, каб пабачыць самыя славутыя месцы горада. На шчасце мэтай быў рэстаран з блінамі і дранікамі, якія кампенсавалі жару і стомленасць. Макет Гародні Ігара Лапехі, Каложа, Стары і Новы Замак, прыватны музей Януша Паруліся, гэта толькі частка таго, што ўдалося нам пабачыць.

Турыстаў з Залук вельмі парадавала крама «Адметнасць», у якой правялі мы амаль гадзіну часу. Адзенне, цацкі, нашыўкі, сувеніры, стужкі, значкі, магніты — адным словам усё хацелася забраць на Падляшша. На ўсе пытанні адносна памераў, колераў і колькасці цярпліва і з усмешкай адказваў уласнік крамы, актывіст партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Сяргей Верамеенка. Гэтую краму вучні рэкамендуюць усім менавіта не толькі за добрыя цэны, але таксама прыемную абслугу.

Абсалютным хітом паездкі была сустрэча з лідарам гурту «Дзецюкі» Алесем Дзянісавым. У Цэнтры гарадскога жыцця вучні з Залук мелі магчымасць паслухаць эксклюзіўны міні-канцэрт славутага музыкі. Вучні ўжо чакаюць яго канцэрта ў час сёлетняга фестывалю «Басовішча».

Пасля вяртання ў Беласток вучні пыталіся: «Чаму так коратка? Чаму ў Беластоку так брудна?». Апрача таго ставілі пытанні ці паедзем яшчэ ў верасні, паколькі так многа часу трэба было прысвяціць афармленню пашпартоў...

Гародня не толькі станоўча паўплывала на вучняў і іхнюю матывацыю для вывучэння беларускай мовы, але і настаўнікаў, якія бачылі, што можна так па-сапраўднаму захапляцца Беларуссю.

# Свята беларускай культуры — у 34 раз

**Ужо 34 раз 16 чэрвеня сабраліся аматары беларускай культуры на Свята, сарганізаванае Беларускім грамадска-культурным таварыствам, найстарэйшай беларускай арганізацыяй у пасляваеннай Польшчы. Фэст адбыўся пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока ды Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве.**

Кажа намеснік старшыні таварыства Васіль Сегень: „Гэта адно з нешматлікіх мерапрыемстваў, якія носяць беларускі характар. Яно прысвечана прэзентацыі беларускай культуры ў Польшчы. Найбольш месца звычайна адводзім канцэрту беларускай песні. Але побач таксама свае вырабы дэманструюць і прадаюць народныя майстры. Можна сустрэцца з беларускімі пісьменнікамі, якія прэзентуюць свае творы. Выступаюць зоркі беларускай песні, у тым ліку эстраднай і ў жанры дыска-пола. Можна не толькі паспяваць, але і патанцаваць. Не толькі аматары роднай песні паслухаюць „Прымакі", калектыў „АС", калектыў „Сувенір". Публіка сабралася шматлікая, не толькі беларуская, ахвотная таксама і патанцаваць.



Фэст, аколены нашымі гімнамі «Мой Беластоцкі край» і фінальным «Люблю наш край», быў сапраўдным другім фестывалем беларускай песні. Доўжыўся ён больш за чатыры гадзіны, хаця кожны выканаўца спяваў толькі адну песню. Яшчэ каля шостай гадзіны пляц не пусцеў, як ніколі шмат аматараў роднага слова падыходзіла да сталоў, дзе ляжалі беларускія кнігі і календары, гарталі літаратуру, размаўлялі перш за ўсё з Віктарам Шведам, мафусаілам слова не толькі на Беласточчыне. Гледачы набывалі таксама рукадзелле, перш за ўсё Галіны Бірыцкай з Плянты, якая пасля цяжкага лячэння пасля аварыі зноў прывезла вельмі багаты паказ сваёй творчасці — майстэрства ніткай вышыванага. Аўтары з літаб'яднання «Белавежа» падпісвалі свае кнігі, а Сцяпан Копа, вядомы музыколаг і аніматар культуры меў на сваім стале выбар сваіх зборнікаў з песеннымі творамі з Падляшша. Не хапала толькі багатых сталоў са славянскай літаратурай нястомнага Янкі Заброцкага з Варшавы, з якім мы сёлета развіталіся назаўсёды. А былі такія асобы, як спадар Лявон Кругліч, які бег на фэст, каб таксама прывітацца са сваім сябрам, дзеячам беларускай культуры з Варшавы, не ведаўшы, што нядаўна страцілі мы яго, нястомнага прапагандыста роднага слова, і тыя спевы ды іншыя сустрэчы ніяк не маглі супакоіць спадара Лявона. А страцілі мы ў мінулым годзе і сёлета не аднаго змагара і ціхага, аддана даследчыка, аўтара, чытача ды слухача, вернага роднаму. Таму той сум, але і радасць, калі бачым на сцэне маладое пакаленне.

Сапраўды, можна было і кінуцца ў танцы — спрыяла надвор'е, з ветрыкам, якое дало ахаланўць ад трапічнай спякоты чэрвеня і публіцы, і выступоўцам, асабліва тым, хто спяваў і танцаваў у багатых беларускіх строях. Асабліва неўтаймаваныя дзеткі з «Падляшскага вянка», што выступалі ад самага пачатку да канца мерапрыемства, былі рады мімалётнай ахалодзе.

— Ой, выйшлі яны наперад усялякіх аглядаў, але ж не кожнае з іх будзе салістам, пойдзе ў прафесійныя танцы, — кажа адзін з бацькоў, таксама ў народным строі, якога сын выступае ў Беларускім дзіцячы ансамблі «Падляшскі вянок» з Аб'яднання АБ-БА пад мастацкім кіраўніцтвам Аксаны Прус. — Нам, можа, хапіла б ужо і таго, каб дзіця хоць ведала народныя танцы і умела адважна паказацца, выявіцца на сцэне, як і ў жыцці — беларусам. Але ж не кожнае мае такі талент, як Сара Скаўронская ці Мікола Здрайкоўскі, і такую працавітасць і адданасць...



Не менш паспяхова, аддана і па-майстэрску як Аксана Прус рыхтуюць сваіх мастакоў Марта Грэдаль-Іванюк (якая яшчэ нядаўна сама выступала на беларускіх аглядах песні) — яна прывезла калектыў «Анімата» з Нарваўскага асяродка культуры, калектыў «Пульс» з Гайнаўскага дома культуры з Зосяй Філіпюк; Анна Вярцінская з Баўтрамеем Келсам і калектывам «Капрыз» з Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім, Рэната Тушынская, якая рыхтавала вучняў з беластоцкай «чацвёркі» Марыю Пякарскую, Марыю Хадакоўскую і Аляксандра Хаманюка. І моцных спевакоў і кіраўнікоў гуртоў — Гражыну Валкавыцкую (хор «Крыніца» з Беластока), Багдана Астапчука (гурт «Лайланд» з Беластока, сёлета з салісткай — сярэдняй дачкой Багдана), Галену Датчук з Машчоны-Каралеўскай, Мікалая Фадзіна (хор «Васілёчкі з Бельска), Сяргея Лукашука («Маланка» з Бельска), Галену Шчыгол («Аморфас» з Сямятыч), Юрку Астапчука («Прымакі» і маладая «Спявай душа» з салістамі з Гарадка і Міхалова), Анну Бабік (хор настаўніц «Світанак» з Беластока), Славаміра Трафімюка («Ас» з Беластока), Яраслава Вазьнеўскага (калектыў „AD Rem" з Дубровы-Беластоцкай), ну і Андрэя Жамойду з адкрыцця апошніх гадоў — гурта «Сувенір», у якім спявае, кампануе і піша вершы Янка Хоха.

— Я цяпер не з развеяным валоссем, — усміхаецца Янка Хоха да Віктара Шведа, ягонага майстра слова (яны і ствараюць новы музычны праект). — Я таксама складваю слова да слова, слова да музыкі, але вы заўсёды — мой майстра.

Да Віктара Шведа, які сядзеў пры століку са сваім выданнямі (піша далей!) чарга не меншала, а бывала так, што хтосьці з чытачоў спыняўся пры ім на даўжэйшы час, як студэнты з Беларусі (вучацца ў Беластоку) Антон Гліган і яго сяброўка Сашка Шарыпская. Яны і выдалі шмат са сваёй стыпендыі на кнігі. Антон, які цудоўна валодае роднай мовай, пасля вучобы ў Беластоку мае намер штудзіраваць беларускую філалогію ў Варшаве. Некаторыя чытачы і падспеўвалі пад песні са зборнікаў Сцяпана Копы. «У мяне ёсць і сшыткі з выразкамі «Песень па заяўках», што друкаваліся ў «Ніве», — кажа пані Галіна з Багноўкі (цяпер гэтая вёска — паселак Беластока). — Можа, варта было б зноў друкаваць словы песень, або нават і з нотамі ў нашым тыднёвіку? Чыталі б людзі, а пасля мелі б такую памятку, як і я. А ў мяне ёсць дома і першыя зборнікі спадара Шведа...» — «А новыя вершы Віктара Шведа, што друкуюцца ў «Ніве» і ў «Зорцы», чытаеце?» — «Маю праблему купіць «Ніву», бо нам кіёск забралі, адно па каляндар у рэдакцыю прыязджаю, старая я ўжо сама... А пан Швед малайчына, што ў такім узросце піша!» — «Я ж жыву, і пішу!» — усміхаецца паэт, які быў і маім «першым жывым паэтам»!

А чытачы — не толькі беларускіх выданняў — маюць і прэтэнзіі да аўтараў.

— Ты пісала пра Мікалая, — кажа мне былая жыхарка Цісоўкі. — Во такі герой. А чом ты не напісала пра яго жонку Марыю? Яна больш вартая ад яго. Яна ўсё дзяржала. Муж прыйшоў і пайшоў, вярнуўся — не вярнуўся, а ўся дружына, уся гаспадарка ў яе на галаве. Нашы жанчыны вартыя аповедаў і кніжак!

— Песня акрыляе, ачышчае, ратуе, гартуе, абуджае, супакойвае і натхняе, — паўтарыла Анна Бабік, вядучая разам з Радкам Дамброўскім мерапрыемства, словы Тацці яны Карабейкі, кіраўнічкі народнага хору песні БДУ «Родніца» з Мінска. — Я маю шчырую надзею, што вы сёння дадому пойдзеце ачышчаныя, урата ваныя, загартаваныя, абуджаныя, супакоеныя і натхнёныя.

Ужо пры самым канцы падышоў да беларускіх пісьменнікаў народны паэт родам з Райска — Янка Дамброўскі. Ён піша ад заўсёды. У мінулым годзе прыслаў свае вершы-песні першы раз у «Ніву» на конкурс «Дэбют», хаця з «Нівай» ён знаёмы ад дзясяткаў гадоў. Новы верш напісаў з серыі «Рыфмаванкі Дамброўскага Янкі.» І такая радасць, як ува ўсіх тут слухачоў і гледачоў, аматараў роднай культуры: «А вось там пад Бельскам вёсачка родная, мы вясной паедзем у Гацькі, агарод там будзем закладаць, а вечарам па працы песні будзем спяваць на лавачцы». Без вялікіх слоў, сярод радні і суседзяў, якім блізкае звычайнае, свойскае слова і песенька пра тое што было і ёсць.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# «Захаваць у памяці» і актывізаваць асяроддзе

— Я люблю працаваць з дзецьмі і гэта маё прызванне, — кажа ўзрушаная Ніна Абрамюк, — таму мне лягчэй. І дадае: — Настаўнік павінен быць узорам для вучня.

Кожны, хто прайшоў праз рукі Ніны Абрамюк, ведае цану гэтым словам. Разумее, як вялікую ролю ў жыцці адыгралі яе заняткі, як паўплывалі на жыццёвыя выбары, на грамадскую і нацыянальную свядомасць.

Школьнае свята «Захаваць у памяці» прыкмецілі ўсе ў гміне ды не толькі. Яно прыцягнула прыгожую публіку талерантных, адкрытых людзей:

— Мая дачка вельмі палюбіла беларускія заняткі з паняй Абрамюк, — кажа бацька Карнэліі Вшэбароўскай. Як большасць сабраных бацькоў, спадар Вшэбароўскі не толькі глядач, але і спонсар свята. Цешыць яго энтузіязм дачкі, яе ахвота вывучаць беларускую мову. Прыехаў у Нарву за працай у «Рольмак» з іншага кутка Польшчы: — Большасць мясцовых людзей размаўляе па-беларуску, і мы таксама хочам навучыцца так гаварыць. Хочам разумець, пра што гавораць нашы суседзі, знаёмыя, — дадае.

Яго словам падтаквае дачушка Карнэлія ў квяцістай падляшскай хустцы. За момант выступіць у падляшскай абрадавай п'есе пра Шчодры вечар.

— Tylko z białoruskim językiem są takie fajne scenki, — заяўляе радасна Карнэлія. — Uwielbiam nasz teatr i wszystko co tu robimy.

***

Сярод гасцей і спонсараў настаўніца назаве ксяндза прэлата Збігнева Нямойскага. Нарваўскі ксёндз — пастаянны госць свята «Захаваць у памяці». Сёння ён прыйшоў са сваім калегам, бацюшкам Багумілам Карнілюком. Мерапрыемства вучняў прыцягнула найважнейшых гасцей у гміне. З'явіўся войт Андрэй Пляскавіч з жонкай, інспектар асветы Іаанна Маеўская, дырэктар Дома культуры Анна Андраюк-Савіцкая, старшы біблітэкар Ала Сяткоўская, інспектар па камунальных справах Славамір Паскробка, прадстаўнік Банка ў Нарве Катажына Давідзюк, радны Ян Грынявіцкі. Грамада надта сардэчна прывітала гасцей з Беластока ў асобах настаўніцы Іаанны Марко і Марціна Абійскага, новага дырэктара Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія. Сярод сяброў мерапрыемства мы прыкмецілі спадарыню Ядзю Фільяновіч, школьную прыбіральшчыцу і мастачку-аматарку, якая намалявала шмат карцін для школы.

— Я ўжо восем гадоў на пенсіі, — кажа спадарыня Фільяновіч, — але мяне цягне ў школу, як ваўка ў лес. Я прыйшла на беларускае свята, бо вельмі паважаю паню Абрамюк. Мы столькі разам зрабілі! — Тут трэба прыгадаць чароўныя мастацкія афармленні, якія да беларускіх сцэнак рыхтавала з дзеткамі мая субяседніца.

Свята «Захаваць у памяці» не мог абмінуць Славамір Паскробка, які прыехаў з жонкай і сынам Крыстыянам з Васькой.

— Мы ўсё сваё захоўваем у памяці, — кажа, — таму сюды прыязджаем. У сённяшні час, калі ўсё пераходзіць на камерцыю, мы павінны паказаць, што цэнім спадчыну і культуру. Мы ўдзячны спадарыні Ніне Абрамюк, што яна прыкмеціла здольнасці нашага сына, пакіравала яго развіццём. Ён вучыцца ў ліцэі і выступае на сцэне. І адначасова шануе нашу сялянскую працу, ад малога дапамагае ў гаспадарцы. Выхаванне з працай гэта таксама наша спадчына!







Крыстыян, на радасць малодшых сяброў, бацькоў і гасцей, выступіў з жартаўлівай сцэнкай пра шкодныя звычкі мясцовых мужыкоў.

***

— Гэтага, што мы зрабілі за год, немагчыма паказаць, — кажа Ніна Абрамюк. — Сёння пакажам пастаноўкі «Вываражыла», «Багаты вечар», «Вялікдзень», «Я хачу працаваць». З апошняй п'есай мы заваявалі першае месца на Тэатральным аглядзе ў Беластоку. Цешаць і дадаюць нам крылаў паездкі ў іншыя мясціны. Цягам мінулага года мы выступалі ў Дубічах-Царкоўных, Беластоку, Дубінах. Нядаўна нас запрасілі ў Трасцянку. Так што безупынна ёсць у нас праца і планы. Сёння балючы момант, таму што трэба развітацца з васьмікласнікамі і гімназістамі. Сапраўды, найстарэйшыя навучэнцы прынеслі школе многа гонару і шмат прызоў. У беларуска-моладзевым крузе ўсе ведаюць братоў Марка і Уладзіка Кутузавых, якія заваявалі поспех у прадметным конкурсе па беларускай мове, беларускай дыктоўцы, «Беларускай гавэндзе», «Роднаму слову», конкурсе праваслаўнай паэзіі, ды іншых... Усе будуць доўга ўспамінаць мудрага Міхася Тапалянскага, які цудоўна сыграў ролю солтыса ў п'есе «Вываражыла», яго сяброўку Карнэлію Порац як бабку-шаптуху ды Касю Станько як бізнес-вумен у пастаноўцы «Я хачу працаваць». Кася ўвасабляецца ў маці шматдзетнай сям'і, якая, нягледзячы на салідны ўзрост, хоча спаўняцца прафесійна. Праз гэту ролю прасочваецца крэда і мары настаўніцы, рэжысёркі і арганізаткі тэатра. Спадарыня Ніна Абрамюк — настаўніца-пенсіянерка. Але яна не пакінула сваіх вучняў і вядзе тэатральны гурток у рамках пазаўрочных заняткаў. За гэта вучні і бацькі абсыпалі яе кветкамі ды словамі ўдзячнасці і прызнання.

Я, як вучаніца спадарыні Ніны Абрамюк, далучаюся да гэтага ўдзячнага хору! Я поўная прызнання, што разгарнула яна шырокую культурную дзейнасць у мясцовым асяроддзі без усякіх грантаў і праектаў. Ды адначасова матывавала бацькоў і сяброў, якія самі фінансуюць школьныя святы, паездкі і ўзнагароды вучням. У гэтым ваша шчырасць і прыгожасць.

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Час на ўспаміны (2)

У сястры Марыі апрача дачкі Ніны было яшчэ двое малодшых сямейнікаў: Мікалай і Жэня. З Мікалаем мы былі амаль аднагодкі, ён 1941 года нараджэння, усяго некалькі месяцаў малодшы за мяне. Жэня маладзейшая на тры гады. У час нашага гасцявання завязаўся ў нас трайсты саюз. Памятаю, як з Жэняй хадзілі ў калгасны дом культуры на канцэрт Льва Лешчанкі, які прыехаў з Мінска. Там упершыню пачуў я песню «День победы». Запамяталася яшчэ адна песня гэтага песняра, калі не памыляюся, «Соловьиная роща»... Цудоўны быў канцэрт. Шмат сабралася публікі. Паўтары гадзіны праляцела мігам. А публіка развіталася з артыстамі гучнымі апладысментамі. Гэта быў падарунак у знак прызнання.

Не прыпамінаюцца мне сямейнікі сястры Тані, якая з мужам Аляксеем жылі ў сваім доміку пры канцы вёскі. Без праблемы можна было б да іх трапіць, паколькі іхні дом межаваў з паштовым аддзяленнем. Таня працавала там прыбіральшчыцай. Аляксей штодзень падаваўся на работу ў калгасную кузню. Аднойчы папрасіў мяне зведаць яго «гаспадарку». Кузня знаходзілася непадалёк за сялом, на ўзгорку. Як вокам глянуць, навокал красаваліся збожжавыя нівы, якія перамешваліся з зялёнымі сенажацямі. І ў гэтай каляровай карціне прыкмеціў я шэрую, пржавелую касілку.

— А гэта чаму там стаіць? — пытаю ў швагра.

— Пэўна непрыдатная, — гаворыць Аляксей. — Лом не прыбіраюць... Рамонт не апраўдаецца. Лепш новую купіць.

У час размовы Аляксей выявіў, што сельскагаспадарчых машын у іх udoстаць. З ГДР пастаўляюць. Не надта дарагія... Гэта было ў васьмідзясятыя гады, калі я працаваў на станцыі ў Чаромсе ў канторы перадачы. Праз Чаромху ў Высока-Літоўск мы штодзень адпраўлялі дзясяткі цягнікоў з сельскагаспадарчымі машынамі. І неаднойчы прыходзілася задумвацца, дзе гэта «дзяваецца»?..

Некалькі гадоў пазней я сустрэўся яшчэ з Таняй, Аляксеем ды Оляй на сустрэчы ў Тарэспалі. Паколькі Бяла-Падляска ладзіла памежнае супрацоўніцтва з Камянецкім раёнам, пры канцы васьмідзясятых гадоў адбылася сустрэча на польскім баку ў Тарэспалі. Сорак калгаснікаў прыгранічных сёл магло ўдзельнічаць у гэтай сустрэчы. Шчаслівымі аказаліся і нашы сурадзічы з Далбізны і Апакі: Таня з Аляксеем і Оляй. Затым перадалі нам у Чаромху вестку, каб хтосьці прыехаў на сустрэчу. Я паехаў з сястрою Геняй. Памятаю, што з Чаромхі паехала шмат людзей. Сустрэча праходзіла непадалёк чыгуначнай станцыі, у парку. Мы цудоўна правялі нядзелю ў сямейнай кампаніі. У гэты дзень Аляксей падарыў мне шыкарны летні капялюш. Развіталіся ў паслябедні час са слязінкай у вачах: «Да хуткай сустрэчы!».

Неўзабаве адкрылі прамое чыгуначнае спалучэнне Беласток — Брэст. Карыстаючыся законам аб памежным руху, можна было перасякаць мяжу на аснове візы. Я карыстаўся такою магчымасцю. Падаў заяўку ў Беларускае консульства ў Беластоку з просьбай выдаць візу з магчымасцю наведваць сурадзічаў у прыгранічнай зоне Камянецкага раёна. Заяўка была адобрана. Але ад першага майго падарожжа ў Апаку і Далбізну мінула больш дваццаці гадоў. Многае перамянілася. Памерлі дзядзечка Косця з цёткаю Лідзіяй, затым Марыя з Мікалаем і Танюша з Аляксеем. У апошнюю дарогу свайго швагра я яшчэ змог правесці з пляменніцай Ларысай. Калі атрымалі вестку аб смерці, дык неадкладна афармілі дакументы і падаліся на пахаванне ў Далбізну. А пахавалі Аляксея Кандрацюка на могільніку ў Вярховічах непадалёк дзядзечкі Косці і цёткі Лідзіі. У Апацы і Далбізне засталіся апусцелыя сядзібы. Оля з мужам Валодзем і сынам Валеркай пражываюць у Юўсічах, Жэня — у Калінкавічах. Коля Панасюк ажаніўся з Галінай Міхайлаўнай... Але гэта ўжо іншая гісторыя.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Завяршылі школьны год з песняй!

— Даражэнькія! Дзякуючы вам у нашых сэрцах заіграла радасць, — сказаў узрушаны бацюшка Марк Ваўранюк. У зале загрымелі бравы, пахлі кветкі, гучалі словы падзякі. Так завяршылі школьны навучальны год у беластоцкай парафіі Яна Тэолага. Усю ўвагу і захапленне прыкаваў дзіцячы царкоўны хор. Сёння харысты атрымалі пасведчанні і салодкія падарункі ад парафіі. І вядома — самі не асталіся ў даўгу. Яны запрасілі на міні-канцэрт, якія адбыўся ў хатняй царкве.

— Мы хочам паказаць, — гаварыла Анна Васькоўская, дырыжорка хору, — што апрача царкоўных песень, спяваем яшчэ іншыя, народныя песні...

Пачалося з «Купалінкі», якая выклікала захапленне і радасць, пра якую згадаў айцец Марк. Далей прагучала польская народная песенька „W moim ogródeczku”, а за ёй беларускі «Паяцык». Вялікім сюрпрызам была песня на сербскай мове пра Косава. Навучыліся яе ад сербскіх сяброў, з якімі праводзілі музычныя майстар-класы. (Сербы вывучалі нашу «Купалінку»!). Дзіцячы хор, можна сказаць, расце разам з парафіяй. З кожным годам іх усё больш і больш. Ад верасня па чэрвень, у кожную нядзелю, спяваюць ранішнюю літургію.

У вялікія святы яны апранаюць густоўныя, бел-чырвонабелыя строі (па ўзору першых строяў «Падляшскага вянка»). Прыдбалі іх з дапамогай гранта Падляшскай маршалкоўскай управы. Хор вядзе спадарыня Анна Васькоўская. І можна сказаць, што не толькі вядзе, але і жыве хорам. У ім спяваюць дачушкі спадарыні Ані — Марта і Дар’я, лаўрэаткі ўсіх музычных конкурсаў у рэгіёне. Іх захапленне перадаецца ўсім дзецям ды нават дарослым. Так, словы пра радасць у сэрцах сапраўды адлюстравалі настрой канцэрта. Харысты заявілі, што канікулы таксама правядуць з песняй.

**Зорка**, фота ГК





## Іграла словам і целам!

*Малгажата Ваўранюк з Нарвы*

Тыя, што бачылі Малгажатку Ваўранюк на «Гавэндзе», яшчэ раз усміхнуцца на гэты незабыўны ўспамін. Яна перасякае ўсе спадзяванні і стэрэатыпы, каб у канцы выклікаць прызнанне і бравы. Гэта сапраўднае шоў, акрабатыка слова і цела!

Ужо сам загаловак яе гавэнды называе тэму: *Як я паехала ў Кракаў!*

Спачатку «паездка», калі ўлічыць моўныя хібы акцёркі, здаецца немагчымай. Глядач прарочыць ёй паразу, разгубленасць, няўдачу. Ён не ведае, што з кожным словам будзе кусаць сябе за язык і шкадаваць заўчаснай ацэнкі. Малгажатка — комік чыстай вады! Яе аповед фундуе нечаканыя павароты дзеі, усё здзіўляе, урэшце захапляе і палоніць. Слухач, які напачатку хмыкаў пад носам, хоча падацца з ёй у падарожжа. Малгажата іграе не толькі словам і жэстамі, яна іграе ўсім целам. Яна перакідаецца праз галоўку, робіць шпагат, стае на галаве і руках! Усё гэта дзіўна — у яе поўная фігура. Праз гэта яе жэсты здаюцца яшчэ больш плаўнымі і мілагучнымі, як расказ пра прыгоды ў падарожжы.

«Гавэнда» вучыць, што трэба мець свой розум і трымацца свайго стылю. І ўсё будзе, як трэба. Яны абароняць нас ад нечаканых прыкрасцей.

Выступленне, якое прыкмеціла журы сёлетняй «Гавенды», напісала настаўніца Тамара Бялькевіч, якая ад верасня мінулага года, працуе ў Нарве. Яно папоўніла мастацкія выступленні вучняў, якія ў цыкле «Захаваць у памяці» прайшлі ў Нарве 7 чэрвеня г.г.

Але пра гэта, напішам у наступных нумарах.

**Зорка, фота ГК**

## УВАГА КОНКУРС! № 26-19

**Ішоў, ішоў, дзве дарогі знайшоў і ў абедзве пайшоў.**

**(падказка: з адзення) (Ш....)**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 14 ліпеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 21: бяроза. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Аляксандра Кудашэвіч, Матэвуш Валентовіч з Бабік. Віншуем!**

# Частка майго жыцця

Шэпты з шафы



Вікторыя Гаць

Музыка была са мной ад малога. Яшчэ з расказаў мамы ведаю, што ў дзяцінстве я ўвесь час нешта спявала. Для мяне спявалі таксама мама і бацька. Я асабліва любіла, калі тата спяваў. Можа таму, што ён выязджаў за працай і яго часта не было дома. Расстанні з бацькам былі для мяне балючымі. Я кожны дзень чакала яго вяртання. Калі тата вяртаўся, я прасіла, каб нешта мне заспяваў. Аднойчы ён быў стомлены і не хацеў спяваць.

— Не магу! — сказаў.

— Чаму, татка? — здзівілася я.

— Бо мне слон на вуха наступіў, — пажартаваў ён.

Я не разумела, пра што ён кажа. Я пашкадавала бацьку і суцешыла яго словамі: «Ой бедны, ты, бедны татка!».

Любоў да музыкі пашырыла мая дарагая сястра Паўліна. Яна прыгожа спявае. Калі мы разам пабывалі ў бабулі, мы ўвесь час нешта спявалі, слухалі розную музыку. Мама, калі прыкмеціла мой музычны дрыг, запісала мяне ў музычны гурт. Па сённяшні дзень я спяваю ў Бельскім доме культуры. Спяваю таксама ў «Жэмэрве» і школьным калектыве «Капрыс».

Я настолькі зжылася са спевам, што ўжо не ўяўляю свайго жыцця без музыкі. Кожны дзень слухаю хаця адну песню. Мая мама смяецца, што мушу адспяваць сваю штодзённую «норму». Так гэта яно выглядае, так мяне бачаць людзі.

Спеў і музыка — гэта частка майго жыцця.

**Вікторыя Гаць,**
**галоўны рэдактар газеты «Шэпты з шафы».**



Малюнак Юстыны Бакуненка



Юля Грэсь

## Лісты з ньюсам

*Дарагая Мама!*

*На пачатку хачу Цябе моцна абняць. Хаця я прыехала на Сустрэчы «Зоркі» ўпершыню, мне тут вельмі падабаецца. Я пазнаёмілася з многімі сябрамі, слухала вершы паэтаў Віктара Сямашкі і Міры Лукшы. Працую ў рэдакцыі Вікторыі Гаць. Яна прыехала з Бельска-Падляшскага. Стараюся пісаць у нашу газету па-беларуску, але не заўсёды мне атрымліваецца. Вырашыла вучыцца ў час канікул, каб у наступным навучальным годзе лепш валодаць беларускай мовай.*

*Буду размаўляць з бабуляй і дзядулем па-простаму і чытаць «Зорку».*

**Патрыцыя Каранкевіч,**
«Шэпты з шафы»

**Юля Грэсь,** Бел-News

## Чалавек

Няма на свеце нікога,
нікога такога як я.
Кожны чалавек іншы,
а сярод іх я...
Чалавецтва зразумець
спрабую,
Але як тут зразумець?!
Як зразумець
— калі кожны іншы?
І кожны свой свет мае,
і кожны мае свой досвед.

# Польска-беларуская крыжаванка № 26-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22-2019:**
Ігар, язык, салат, жырафа, кран, вожык, лава, уран, шалапут, ды, зрыў, кіно. Іскра, кран, галава, Алена, рай, вушы, жораў, выжал, рынак, знак, Пі, гун, квас, то.

Узнагароды, **каляровыя алоўкі,** выйгралі **Аліўка Жэпко** з Нарвы, **Карнэлія Вaraновіч** з Бабік, **Марыюш Радзецкі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Магда Якубюк з** ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Żyto / Czołg | | | | | Marzenie | Osa | | Drop |
| | | Żyła / Ala | | Ty / Marsz | | | | |
| | | | Rosa / Rymowanka | | | | | Obrzęd |
| | | Żyrafa / Żarty | | | | | | |
| | Tyczka / Szafa | | | | | Mig | | |
| Pasza | | | | | | | Czy? | |
| Buty | Stolica | | | | | | | |
| | | | | | Prze-wodnik | | | |




Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

# Ганна Кандрацюк: ад вытокаў

**Кніга Ганны Кандрацюк-Свярубскай „Па Прыпяці па Нобель" („Ніва", 2017) — вартыя нататкі пра плённыя вандраванні аўтаркі пры вытоках сакральнай беларускай ракі з санскрыцкай, як і недалёкія горы Карпаты, назвай.**

Тэкст „стартуе" ў рэстаране гатэля заходнеўкраінскага Ковеля. Самоту пісьменніцы парушае крымінальнік: праз нудотна-пазнавальны для былых жыхароў СССР „падкат" вымагае з яе крыху грошай.

Па адпачынку душой у ковельскай цэркаўцы Кіеўскага патрыярхату працяг прыгод абяцаецца рызыкоўным: трывожны сон, усхваляваныя папярэджанні касіркі аўтастанцыі ў Шацку, калі Ганна кажа, куды хоча ехаць. У выніку Кандрацюк на некалькі дзён ідзе ў праваслаўны манастыр ля таго возера Свіцязь, што атрымала назоў праз дзесяцігоддзі па смерці Адама Міцкевіча. Затым бавіць час у паселішчы Свіцязь у асяродку асабліва працавітых у сезон турызму пратэстантаў.

У кнізе аўтарка вандруе і з калегамі з Польшчы (напрыканцы тэксту яна іх з удзячнасцю ўзгадае). Але збольшага стасуецца з мясцовымі, ляпрыпяцкімі.

Уласна Прыпяць (пошукі яе вытокаў-крыніц) пачынаецца з пяцідзясятай старонкі кнігі. Потым то вяртаецца ў аповед, то аддаляецца на дзясяткі кіламетраў. Ды ўсе наведаныя падарожжам мясціны належаць да прыпяцкага басейна і тэрыторыі сучаснай Украіны.

Ганна не хавае сваёй заангажаванасці, захопленасці Палессем: „На Палессі, як нідзе ў свеце, любяць прыхарошыць здарэнне, каб і апошняя тупіца належным чынам ацаніла яго ранг і значэнне", „Палескія тосты лепшыя за грузінскія", „На Палессі колькасць сыноў гэта прызнак багацця", „На Палессі ведаюць дванаццаць відаў вятроў", „На Палессі, як нідзе ў свеце, прылюдны жаночы свет. Нават асоба звонку адчувае жаночую салідарнасць і апеку з боку незнаёмых жанчын". Кандрацюк узгадвае: „у трыццатыя гады XX стагоддзя этнасацыёлаг Абрэмбскі прыкмеціў, што палешукі атаясамліваюць сваю нацыянальнасць з адміністрацыйнымі межамі. (...) нічога не памянялася з таго часу".

Знешне і характарам палешукі адметныя — зацята-практычныя. Але вартасць сваю чалавецтву не давалі. Палескі складнік у дзяржбудаўніцтве некалькіх нацый, да якіх ён спрычыніўся, найчасцей ігнаруецца.

Аўтарка канстатуе разгадкай неадбылай палескай дзяржаўнасці драму сям'і: „На Палессі ўсе жанчыны наракаюць на шлюбных мужыкоў, нават калі яны залатыя".

*

Праз вандроўку пісьменніцы праходзіць мноства адметных паляшуцкіх пунктаў, амаль кожны з якіх — патыхае містыкай пра- і дахрысціянскага: весь Буднікі на водападзеле Балтыкі і Чарнамор'я (крынічна-балотны пачатак Прыпяці ў 7 км ад Заходняга Буга), лясное возера Святое, іншае Святое возера — былое месца гульбішчаў калгасна-саўгасна-партыйнай эліты, Ратна — радзіма іканапісца XIII-XIV стагоддзяў, першага мітрапаліта кіеўскага, які падаўся ў Маскву — Пятра...

У Ратне, апроч саманазвы, яшчэ некалькі сонечных (з „ра") тапонімаў: рачулка Ратэнь ля рукавоў якой, пры ўпадзенні ў Прыпяць у сівую даўніну былі пустэльні і манаскія келлі, „княжае места" Рай (цяперашняе Я**ра**вішча). Ганна распавядае пра Пятра Ратэнскага больш змястоўна і дакладна за „уміліцельныя" чытанкі ў храмах Маскоўскага патрыярхату. Ужо таму яе кніга вартая.

Пісьменніца сведчыць: у невялічкім мястэчку „на месцы сярэдневяковай царквы, што мабыць памятала Пятра", на малой радзіме мітрапаліта — помнік Шаўчэнку і стэнд памяці „Нябеснай сотні" (загінулым ва ўкраінскую рэвалюцыю пачатку 2014 г.). Украіна на Пятра Ратэнскага не прэтэндуе, дык можа ён беларус?

...Надпрыпяцкая Рэчыца — рачны разліў на Дабравешчанне. Заможная, акуратная вёска з цэркаўкай Маскоўскага патрыярхату, якая захоўвае рысы Уніі.

Камень-Кашырскі. Набыццё Ганнай у „вядзьмаркі"-прадавачкі на кірмашы ягад, зёлак ды грыбоў-смаржкоў.

Сяло Нуйно з амаль кітайскай традыцыяй, званай тутэйшымі „горка": хлопцы і дзяўчаты з дазволу бацькоў, нягледзячы на перасслед царквы, а пасля камуністаў, яшчэ да вяселля спалі ў адным ложку. Абыходзіліся пры тым без сексу да вяселля, і тых, хто на яго прэтэндаваў — „з горкі" выкідалі.

Ганну Нуйно вітае шчодрымі прысмакамі, каньячнай якасці самагонкай і тостамі, што нагадваюць міні-оды.

Вёска Грудкі — паселішча XVI стагоддзя Ольбле датчан-наёмнікаў, „сэрца міфічнай Лэбскай зямлі", у 1946 годзе перайменаванае за падтрымку антысавецкай партызанкі.

„Лэбская зямля" — з тапонімамі, пакінутымі вікінгамі конунга Лэбэша (ці готамі?) працягваецца да самага Нобеля — на які, як на канечны пункт вандроўкі ўказвае назоў кнігі. Тут „многа рыжых і светлавалосых з сінімі вачыма (...) і менш чым ва Украіне чарнавалосых і цемнавокіх (...) не прыйшлі са стэпаў, а толькі з поўначы Еўропы (...) у спадчыну па вікінгах мясцовыя людзі атрымалі незвычайную мабільнасць і непаседлівасць".

Невір над Прыпяццю — „чарадзейная сталіца Палесся", у трох кіламетрах ад Беларусі. Назва ці ад неўраў ці ад старажытнарускага „неві" — воўк. Храм, які будавалі ў сяле, забраў Кіеўскі патрыярхат, але ад хціваага святара прыхаджане сышлі ў Маскоўскі патрыярхат.

Да чарадзейства, вядзьмарства, замоваў, сурокаў — да магічнага ўспрымання жыцця тутэйшымі — Ганна вяртае распавед шматкроць. Беларускі чарадзейны „брэнд", які стварыў напачатку XIX стагоддзя Ян Баршчэўскі і яна падтрымвае. Ці не за кошт палешукоў у беларусаў казачных сюжэтаў — пад 500, ва ўкраінцаў — ля 200, а ў расейцаў — 56?

Пры гасцяванні аўтаркі ў Невіры, над ім не першы раз лётае вайсковы самалёт з Беларусі. Нахабства? Правакацыя?

„Старажылка Іра з Невіра" пра Тадэвуша Касцюшку: „Касцюшка быў вельмі добры. А яго правай рукой быў пан Пілсудскі. Яны разам кіравалі Польшчай. Пан Пілсудскі таксама быў вельмі добры".

Вэтлы — мястэчка магдэбургскага мінулага і паважанай рэпутацыі на месцы даўняга паселішча шляху „з вараг у грэкі". У 1933 годзе тут адкрылі 30-кілаграмовую бронзавую таблiцу ў гонар Рамуальда Траўгута і бітвы 1863 года пад Горкамі. Паўстанцы Траўгута былі героямі, але тутэйшыя іх за сваіх не лічаць.

Цяпер табліцу перахоўвае мясцовы краязнавец. Бо, з яго слоў, „для нашых людзей гэта найперш 30 кг бронзы".

Хоць „у прыпрыпяцкіх сёлах звычайна замоўчвалі тэму вайны", вайна пад Данецкам у кнізе ўзгадваецца шматразова. Адтуль, адваяваўшы, многія з палешукоў ці вярнуліся жывымі ці ў трунах ці яшчэ могуць на вайну патрапіць. Прычым з абодвух бакоў.

Любяшоў (ад вікінга Лэбеша?). У пяцігодку, калі тутэйшы валадар Чарнецкі прaкладаў пад і за мястэчка шматкіламетровыя тунэлі, тут падлеткам вучыўся ў калегіі піяраў Тадэвуш Касцюшка. Экапарк з немагчымасцю пабыць у спакоі. Масавы свінабой жніўня 2016 года, каб пазбегнуць свінаканфіскацыі камісіяй кшталту супраць афрыканскай чумы. Вёска Грэчнікі, дзе своечасова свінабой не правялі, і крыўда на сітуацыю выплёскваецца ў палітыку...

Любязь. Тут званы загінулай у 1939 годзе царквы мясцовыя хавалі ў зямлі паўстагоддзя да адбудовы новага храма. Іх таямніцу абараняў ад заўчаснага раскрыцця і прыезджы старшыня калгаса...

Падарожжа з Сарнаў у бок беларускай мяжы ў вагоне з гандляркамі-кантрабандысткамі... Вёска Міляч з безліччу Якубовічаў і пільнымі гасціннымі настаўнікамі. Перабродцы з унікальнай (бо выжыла і дажыла) народнай спявачкай. Марочнае з архаічнай, ды не састарэлай ментальнасцю...

Завяршальная частка кнігі ўтрымвае некалькі моцных і чымсьці парадыйных сюжэтаў: прыпрыпяцкі бурштынавы „кландайк" з мноствам няўдачнікаў і немалой колькасцю разбагацелых (пры тым, Нобельская прэмія, якой у Нобелі з дапамогай шэрагу спонсараў узнагароджваюць штогод за лепшы гумарыстычны твор — усяго 500 грыўняў [ля 20 долараў] дробнымі манетамі), складанасці Ганны ў дасягненні Нобеля, шчаслівыя і змястоўныя сустрэчы-знаёмствы ў самім гэтым мястэчку, якое падаецца аўтарцы родным і прыняўшым яе, эфектны і хуткі стульвыезд... Нобельскае возера з мноствам птушак, абмаляванае Кандрацюк прамой алюзіяй дасылае да апошніх старонак „Ста гадоў адзіноты" Габрыэля Гарсіа Маркеса.

Праз шэраг сучасных нобельскіх (ды і мноства астатніх, пазначаных у кнізе) біяграфій, занатаваных пісьменніцай, як бы праекцыямі перадаецца біяграфія ўсяго Палесся.

Твор выглядае адназначна журналісцкім, для бачання яго мастацкім у ім не хапае апантанай вобразнасці ды патэтычных метафар. Але тое і добра. Галоўнае — распаведу Ганны верыш.



Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Першыя выбарчыя страсці



■ Дом ксяндзоў-вербістаў у Кляосіне

З чэрвеня ў беластоцкім Дзяржаўным архіве адбыліся дэбаты пад лозунгам „**30 гадоў ад чэрвеньскіх выбараў**”. Вяла дэбаты **Агнешка Рамашэўская-Гузы**, дырэктар тэлеканала Белсат. Прыводжу найбольш, на мой погляд, цікавыя вытрымкі з дэбатаў.

Прафесар **Іаанна Садоўская** з Беластоцкага ўніверсітэта распавяла агульна пра ход выбараў у Сейм і Сенат, якія адбыліся 4 чэрвеня 1989 года.

**Марэк Кетлінскі**, дырэктар Дзяржаўнага архіва, расказаў пра некаторыя падзеі перад парламенцкімі выбарамі ў 1989 годзе ў тадышнім Беластоцкім ваяводстве, падзеленым на дзве выбарчыя акругі: адна ахоплівала Беласток і суседнія гміны, другая — рэшту ваяводства. З Беластока ў Сейм са спіска Салідарнасці балатаваўся пакойны зараз Кшыштаф Путра, з другой акругі Ян Бэшта-Бароўскі. З гэтай акругі балатаваліся таксама, м.інш. Яўген Мірановіч і Владзімеж Цімашэвіч; тут пачалася палітычная кар'ера апошняга, якая доўжыцца па сёння. Ян Бэшта-Бароўскі гэта чалавек-легенда, які інтэнсіўна дзейнічаў у Салідарнасці індывідуальных сялян; ён дабіраўся да амаль усіх вёсак, быў сапраўды вельмі актыўным чалавекам. 15 красавіка 1989 года Станіслаў Марчук заснаваў Грамадзянскі камітэт Салідарнасць Беластоцкай зямлі. Было створана Выбарчае бюро, якое ўзначаліў Ежы Мушынскі. Выдаваўся выбарчы бюлетэнь „Dobro Wspólne”. Былі мітынгі, напрыклад, 3 мая пасля набажэнства ў Фарным касцёле, калі прамаўлялі Кшыштаф Путра і Анджэй Каліцінскі. У Сейм ад Салідарнасці прайшлі Кшыштаф Путра і Ян Бэшта-Бароўскі, а ў Сенат — Анджэй Стэльмахоўскі і Анджэй Каліцінскі.

Прафесар **Алег Латышонак** з Беластоцкага ўніверсітэта расказаў пра пазнейшыя падзеі ў Беларусі. 20 красавіка 1986 года адбылося гуканне вясны, якое можна акрэсліць як пачатак ланцуга падзей. Моладзь з мастацкіх школ пад кіраўніцтвам настаўнікаў, м.інш. Аляксея Марачкіна і Міколы Купавы, выйшла ў цэнтр Мінска з інсцэнізацыяй, але ўжо не толькі з фальклорнымі элементамі, але і нацыянальнымі. Удзельнікаў напалі камсамольцы-афганцы, была гэта першая падзея, якая пацягнула за сабою ланцуг падзей у Беларусі. Неўзабаве, 26 красавіка здарылася Чарнобыльская катастрофа. Гэтая падзея скаланула Беларуссю, бо 70% забруджання ўпала на яе тэрыторыю. Трэба было перасяліць 200 тысяч людзей. Страх перад радыеактыўнымі ападкамі вельмі ўсхваляваў людзей. А Беларусь у той час, нягледзячы на галоснасць і перастройку, аставалася краінай, дзе інфармацыя была недаступная. Беларусы сталі далучацца да экалагічных рухаў; калі латышы пратэставалі супраць будовы дамбы на Дзвіне, беларусы таксама далучыліся. Першы мітынг адбыўся ў лістападзе 1987 года, пасля творчая інтэлігенцыя стала пісаць лісты Гарбачову, якія нічога не прынеслі. Вялікім шокам было апублікаванне 3 чэрвеня 1988 года Зянонам Пазьняком і Яўгенам Шмыгалёвым артыкула „Курапаты — дарога смерці”, дзе яны паведамлялі, што там, на прадмесцях Мінска, можа ляжаць нават 200 тысяч людзей замардаваных НКВД. У кастрычніку 1988 года Пазьняк і выдатны беларускі пісьменнік Васіль Быкаў заснавалі „Мартыралог Беларусі”, арганізацыю, якая мела заняцца ўшанаваннем ахвяр сталінізму. Неўзабаве ў Курапатах адбыўся мітынг, брутальна разагнаны ўладамі. 26 красавіка 1999 года ўпершыню адбыўся Чарнобыльскі шлях, які пасля стаў штогадовай урачыстасцю. Адпаведнікам нашых выбараў, як мне здаецца, былі выбары ў Вярхоўны Савет, дзе апазіцыі ўдалося ўвесці ў парламент толькі некалькі чалавек, але і гэта, як на Вандэю перастройкі, было вялікім поспехам.

**Яўген Мірановіч**, прафесар Беластоцкага ўніверсітэта: — Беларуская актыўнасць была рэакцыяй на тое, што адбывалася ў польскім асяроддзі. У пачатку 1980-х гадоў з арганізацыйнымі ініцыятывамі выступіла студэнцкая моладзь, галоўным чынам з Варшавы. У Варшаве былі больш спрыяльныя ўмовы, там польскія калегі заахвочвалі далучыцца да іхніх ініцыятыў. На Беласточчыне было незадавальненне з боку інтэлігенцыі. Такім гуру інтэлігенцкага асяроддзя быў Сакрат Яновіч. І па ягонай актыўнасці сталі друкаваць серыю беларускіх дакументаў. Першы том выйшаў у канцы 1982 года; чарговыя чатыры тамы пазней. Яны былі друкаваны тыражом каля соткі асобнікаў, але кожны зацікаўлены мог з імі пазнаёміцца. Друкаваліся таксама, вядома, нелегальна, дзясяткі розных брашур, кранаючых розныя тэмы. І 1988 год — паўстанне рэдакцыі выдання „Кантакт”, дзе спрабавалі мы акрэсліць не толькі месца беларускай меншасці, але і вызначыць чым у прынцыпе з'яўляецца Беларусь, якія мае шансы на незалежнасць. Вядома, сягалі мы ў далёкую гісторыю. Выхадным пунктам было пытанне, чаму не ўдалося дабіцца незалежнасці ў 1918 годзе; гэтая тэма займала сапраўды многа месца ў рэдакцыйных дыскусіях і публіцыстыцы. Другой тэмай была Другая сусветная вайна і рознае стаўленне беларусаў да тае ваеннае рэчаіснасці. Дзеля каардынацыі гэтых дзеянняў быў створаны Беларускі клуб, які налічваў наццаць асоб; мела быць дыскусія над сітуацыяй беларусаў у Польшчы і перспектыў развіцця сітуацыі ў Беларусі. І раптам Круглы стол і прапанова выбараў. Прыехалі прадстаўнікі Салідарнасці, Гжэгаж Кастшэва-Зорбас з прапановай ад Яцка Кураня, каб мы далучыліся да беластоцкай Салідарнасці. Мы пыталі ці беластоцкая Салідарнасць пра гэта ведае. Адказалі, што яшчэ нічога не ведае, але „будзем размаўляць”. Адказ Беластока быў адмоўны. І ўзнікла пытанне, ці ў такіх абставінах паказваць сваю прысутнасць і змагацца за тую 35-працэнтную пульку. Большасць была за; кандыдатам у сенатары быў, вядома, Сакрат Яновіч. І ўстала пытанне, хто мае быць кандыдатам у паслы. Вызначылі мяне, таму што я крыху больш публікаваў у дадатку да „Тыгодніка Польскага” — у „Тыгодніку Падляскім”, адрасаваным да праваслаўнага насельніцтва, які выходзіў тыражом каля тысячы асобнікаў і кожны ўдзельнік публічнага жыцця мог даведацца, што адбываецца ў нашым асяроддзі. Такім чынам вызначана мяне. Нашы веды пра палітычнае жыццё, далікатна кажучы, былі вельмі сціплыя. Некаторыя роздумы ў нас былі, але таго, чаго хацеў наш патэнцыйны выбаршчык, мы не надта ведалі; нашы лозунгі траплялі ў вакуум. Апрача нас быў яшчэ праваслаўны камітэт, а да таго партыя выразна паставіла свайго кандыдата, адрасаванага да праваслаўнага асяроддзя — Міраслава Суроўца. І тры камітэты кіравалі свае прапановы да таго асяроддзя. Кандыдат ПАРП атрымаў каля 18 тысяч, беларускі кандыдат 15 тысяч і праваслаўны каля 11 тысяч. Такі быў расклад сімпатый беларускага асяроддзя ў тых выбарах. І тое, што ў першых выбарах без ведаў, без вопыту, без грошай, атрымалі 15 тысяч, то ў наступных выбарах павінны быць прынамсі тры мандаты...

Пра змены, якія адбыліся ў стаўленні беларускіх улад да пражываючых у Беларусі палякаў расказаў **Тадэвуш Гавін**, былы старшыня Саюза палякаў Беларусі. Пра падзеі, якія адбываліся ў Літве і, шырэй, Прыбалтыцы, расказаў прафесар **Кшыштаф Бухоўскі**.

Былы беластоцкі ваявода прафесар **Станіслаў Пруціс**: — Быў вялікі энтузіязм і сапраўды, мы не спадзяваліся такога выніку. Я быў давераным прафесара Стэльмахоўскага і быў назіральнікам у Бельску. І калі ноччу сталі прыходзіць у Бельск вынікі, то амаль усюды была перамога нашых кандыдатаў; бадай толькі за выключэннем шасці гмін з поўдня ваяводства. Быў краёвы спісак кандыдатаў ад лагера ўлады. І з таго спіска набралі патрэбную колькасць галасоў толькі бадай тры асобы: першая на спіску і дзве апошнія. Бо людзям рэкамендавалі выкрэсліваць усіх з таго спіска. І так крэслілі, але недакладна, не дацягаючы да канца ці да пачатку. А пасля быў другі тур выбараў і да людзей, якія штось значылі, прыходзілі члены ЗСЛ і СД і прасілі, каб у другім туры сарганізавацца і галасаваць на іх.

**Кшыштаф Вольфрам**: — У айцоў вербістаў, дзе адбываліся передвыбарчыя абрады беластоцкай Салідарнасці, у час пік было каля васьмідзесяці асоб. Справа прафесараў Стэльмахоўскага і Каліцінскага не была праблемай; усе мы дасканала ведалі як гэта будзе. Затое больш складанай была справа кандыдатаў у паслы. Я прымаў удзел у гэтым розыгрышы. Было тры або чатыры раўнды. Спярша былі вытыпаваны кандыдатуры з залы, іх было бадай восем. У наступны раўнд кандыдат мусіў набраць 50% галасоў. З другога раўнда выходзіла далей палова. І трэці раўнд пакідаў дзве кандыдатуры для фінальнага выбару. Я меў той гонар выстартаваць у апошняй пары з Кшыштафам Путрам; пакойны Кшыштаф выйграў пяццю або шасцю галасамі. Я пазней балатаваўся ў чатырох выбарах, паслом стаў у другім скліканні. І як сёння абнаўляю эмоцыі звязаныя з выбарчай працэдурай, і з усёй выбарчай атмасферай, то тое спатканне ў айцоў вербістаў было *nie do przebicia*. Акалічнасці стварылі ўзнёслую атмасферу. Усім вядома, што сабраў нас там Станіслаў Марчук.

**Роман Чэпэ**: — Я магу сказаць, як гэта было з Бэштам-Бароўскім. Устае Марчук і кажа: «Нашым кандыдатам ёсць Пётр Крутуль». І тады Бэшта-Бароўскі ўстаў, быццам яго халера брала, бо брала, і сказаў: «То выходзім». І ён доўга вагаўся — выходзіць ці не. Але мы ўжо тады ведалі, што мусіць быць Бэшта; ён запрацаваў гэта, ён выхадзіў сваю кандыдатуру. Спецыфікай нашага камітэта было тое, што ён быў менш левіцовы чым, для прыкладу, варшаўскі.

Прафесар **Казімеж Тшэнсіцкі:** — У Грамадзянскім камітэце пры Леху Валэнсе з гэтага староння быў, апрача мяне, менавіта Сакрат Яновіч. Ён хадайнічаў за прысутнасць у салідарніцкай групе беларускай меншасці. І Яцак Курань быў вельмі за тым, каб Сакрат Яновіч быў кандыдатам Салідарнасці ў Сенат. Размовы былі вельмі няёмкія. Мяркую, мы мелі не адну сустрэчу ў вербістаў, што тая інфармацыя, якая тады хадзіла, што Сакрат быў агентам, пераважыла, што яго не адобрылі. Салідарнасць прабавала супрацоўнічаць з беларускай меншасцю. А што было б, калі б мы выстартавалі разам? Мы вельмі хацелі дайсці да паразумення і да прысутнасці беларусаў на

чытайце ☞ 10

9 ☞ працяг

# Першыя выбарчыя страсці

салідарніцкіх спісках. Аднак пасля ўсіх дыскусій мы прыйшлі да вываду, што ні яны, ні мы ад гэтага не скарыстаем. Трэба лічыцца з тым, што беларускае насельніцтва неахвотна падыдзе да спіску, на якім беларусы і палякі; не захочуць галасаваць так беларусы, як і некаторыя палякі. І таму мы разышліся, а не таму, што была нейкая неахвота, ці іншае стаўленне, а толькі таму, што паводле нашай калькуляцыі больш атрымаем ідучы асобна, чым ідучы разам.

**Алег Латышонак**: — З перспектывы мінулага лічу, што ўсё адбывалася натуральна. Не разумею, чаму Салідарнасць мела б браць беларуса на спісак. Памятайма, што гэта было б аддаванне свайго, тут нехта мусіў бы саступіць. І лічу, што мы добра зрабілі, выстаўляючы ўласны спісак, бо паказалі нашаму беларускаму грамадству якуюсь альтэрнатыву. Што не толькі ёсць камуністы, але і іншыя беларусы. І лічу, што ў тых умовах мы дабіліся поспеху — прынамсі на дзесяць гадоў змаглі нейкі беларускі рух сарганізаваць, а гэта нямала як на такія малыя сілы. Прыгадаю, што напачатку было нас толькі некалькіх і тое, што маглі мы шматразова зладзіць выбары, было вялікай прыгодай; мы былі маладыя, мы тады толькі вучыліся.

**Ежы Мушынскі:** — Крыху замнога тут непаразуменняў. Яцэк Курань быў вельмі шляхетным чалавекам, але ён зусім не разумеў сітуацыі на Беласточчыне. Адтуль яго такія лозунгі, каб, напрыклад, Сакрат кандыдаваў. У 1980 годзе, калі паўставала Салідарнасць, праваслаўныя рашуча ўступалі ў яе, але пасля двухтрох месяцаў сталі з тае Салідарнасці выпісвацца. Салідарнасць стала набіраць крайне хадэцкую афарбоўку, чаго праваслаўныя не маглі адобрыць. І гэта была праблема. Гэта вельмі складаныя справы. Нашы выбарчыя вынікі былі наступныя: ёсць граніца, г.зв. бельская шаша: Беласток — Бельск і далей на поўдзень. На захад ад шашы рашуча мы выйгравалі, на ўсход, у слаўнай Чыжоўскай гміне атрымалі мы 10% галасоў. Былі размовы, бо прыехаў Міхал Клінгер, які прадстаўляў Варшаву, але гэтага нельга было прасунуць.

**Агнешка Рамашэўская:** — Гэта вельмі цікавае сцвярджэнне, бо гэта ж пасля адбілася на чарговых трыццаці гадах.

**Ежы Мушынскі:** — Я вельмі шаную людзей з Варшавы, у якіх вельмі прыгожае ўяўленне пра сужыццё меншасцей, пра талерантнасць і падобнае. А жыццё там, унізе, простых людзей, не вынікае з ідэалогіі, толькі вынікае з гістарычнага вопыту. І тыя людзі спадчынна пераносяць свае гістарычныя вопыты. І калі сёння спрэчкі пра Бурага, то ўявіце сабе, як тыя людзі галасуюць, якія ў іх погляды. А гісторыя нацыянальных, канфесійных суадносін вельмі складаная, і часта трагічная. І гэта немагчыма ніякімі лозунгамі хутка засыпаць. На гэта патрэбныя гады і, перш за ўсё, добрая воля.

**Агнешка Рамашэўская:** — Але ці хтось намагаўся нешта рабіць, ці заключана, што так ёсць і так мае быць?

**Ежы Мушынскі:** — Размовы былі, у вельмі добрай атмасферы і прыязнай, але было гэта немагчыма. Гэтак жа, як немагчыма было вытурыць Бэшту з кандыдавання. Ён бы заснаваў уласны камітэт, і, больш, ён бы выйграў. Ёсць дзве выбарчыя тэхнікі: або маецца пасляховую прапаганду і вельмі моцны пераказ і масавы да ўсіх доступ, або трэба гэта выхадзіць, на гэта ёсць прыклады. А Бэшта выхадзіў сваімі нагамі і ён бы спакойна выйграў.

Голас з залы: — Помню такі нюанс з дыскусіі, ці прыняць беларускага кандыдата на наш спісак. Дыскусія была вельмі доўгая і сціраліся розныя погляды. І на канец разышліся мы з такім заключэннем, бо ўсе і так лічылі, што Беласточчыне і так было пакрыўджана, бо маем толькі два месцы ў Сейм: у Беластоку адно; і другое на рэшту ваяводства. І канчатковая канклюзія была такая, каб пазмагацца ў Варшаве за трэцяе месца; і тое месца будзе беларускаму кандыдату. Пэўную ролю сыграла тое, што беларускі кандыдат не паявіўся, быў толькі прысланы з Варшавы прафесар Клінгер. Мы нічога пра яго не ведалі і ў нас узнікла такое ўражанне, што можа нас там, у Варшаве, ігнаруюць.

**Яўген Мірановіч:** — Хачу супакоіць дзеячаў Салідарнасці. З беларускага боку не было ніякіх засцярог, не было ніякіх прапаноў, гэта была дыскусія між Варшавай і Беластокам у рамках Грамадзянскага камітэта Салідарнасць. З нашага боку ніхто не праяўляў такой ініцыятывы. Усе сцвярджэнні, выказаныя спадарамі Мушынскім і прафесарам Тшэнсіцкім — правільныя. Хачу патлумачыць, што ваша меркаванне надта аптымістычнае пра пасляховасць палітыкі Эдварда Герка ў стварэнні маральна-палітычнага адзінства польскага народа. Гэта не так. У 1983 годзе, калі ўлада хацела супакоіць акадэмічнае асяроддзе, прызначыла байкаватыя сродкі на праект „Палітычная культура польскага грамадства". Я прымаў удзел у рамках гэтага праекта ў даследаванні тоеснасці праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны. Сапраўды, 28% праваслаўных акрэсліла сваю нацыянальнасць як беларускую. Дзесяць гадоў пазней прафесар Садоўскі, праводзячы вельмі прафесійна сацыялагічнае даследаванне з калектывам і вялікім грантам, у прынцыпе сцвердзіў тое ж самае. Адсотак беларусаў сярод праваслаўных не паменшаў. Знікла толькі група неакрэсленых, якія сталі палякамі; іншых катэгорый не было. Усе вынікі перапісаў насельніцтва пацвердзілі гэтыя паказальнікі.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

---

Студыя Навокал

**http://www.navokal360.by**

Пакрысе чалавецтва рухаецца да таго, калі віртуальнае знаходжанне ў нейкім месцы цяжка будзе адрозніць ад рэальнага. Сёння ўжо нікога не здзівіш рухомымі адной толькі камп'ютарнай мышкай фотаздымкамі, якія ствараюць хоць і даволі грубую, але ілюзію разгляду вакол сябе нейкіх вуліц, будынкаў ці прыродных краявідаў. Няма ўжо чагосьці незвычайнага і ў віртуальных турах па залах музеяў ці паасобных выставах.

Паколькі такі IT-прагрэс не спыняецца, то, зразумела, што знаходзяцца і тыя, хто можа выкарыстаць на карысць сабе і на задавальненне людзям.

У свеце, пэўна, існуе досыць фірмаў, якія займаюцца стварэннем віртуальных тураў, але наўрад ці сярод іх многа тых, што робяць гэта па-беларуску. Магчыма, гэта адна з канкурэнтных пераваг мінскай студыі „Навокал", сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.navokal360.by.**

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на дадзены сайт, то ўбачыць яго і прастату, і грунтоўнасць. Відаць, менавіта такое мусіць быць віртуальнае прадстаўніцтва фірмы, якая зарабляе на інтэрнэце. Нейкую агульную сур'ёзнасць яе намераў візуальна ствараюць фотаздымкі гістарычных будынкаў, што змяняюцца пад назвай сайта і выйсцямі на рубрыкі.

„Стварэнне тураў любых памераў, кастамізацыя тураў пад патрэбы канкрэтнага замоўцы, сферычныя здымкі паветра", — гэта тое, што з'явіцца перад вачыма карыстальніка, калі ён клікне на выйсце да рубрыкі „Мы — гэта". „Нават калі вы кіруеце велізарным аб'ектам, мы створым максімальна зручную і інфарматыўную інтэрактыўную экскурсію па ім. Калі вам патрэбны тур, які працуе афлайн, мы здолеем дапамагчы вам і з гэтым", — з упэўненасцю сцвярджаецца на сайце, уладаром якога з'яўляецца прадпрымальнік і гісторык Сяргей Егарэйчанка.

Цяжка сказаць, да чаго больш схільны дадзены ўладальнік бізнесу — да навуковых ці прадпрымальніцкіх інтарэсаў, але яго прапановы патэнцыйным кліентам ствараць для іх віртуальны тур, выглядаюць прывабна. „Мы здолеем дамовіцца аб кошце праекта і ўмовах яго выканання з кожным! Мы працуем па ўсёй Беларусі і за яе межамі ў любы час, які найбольш зручны менавіта для вас", — самаахвярна адзначаецца на сайце.

Паводле інфармацыі на партале студыі „Навокал", яе працы будуць цікавымі для рэстаранаў і кавярняў, баз адпачынку, гасцініц і аграсядзіб, дывелапераў і забудоўшчыкаў, рыэлтараў, ну і, зразумела, для музеяў і арт-пляцовак. „Наведвальнікі змогуць ацаніць багацце калекцый і інфраструктуру культурнай пляцоўкі яшчэ да набыцця квітка. Многія гэта падштурхне да таго, каб убачыць гэтую прыгажосць сваімі вачыма!" — сцвярджае прадпрымальнік.

На сайце прадстаўлены шэсць прац студыі. Гэта значыць, што кожны, хто зайшоў на яго, можа там жа віртуальна апынуцца ў нумізматычным кабінеце Белдзяржуніверсітэта, на праспекце Незалежнасці ў Мінску, на плошчы Незалежнасці беларускай сталіцы, у народным мемарыяле „Курапаты", на выставе „1919: Беларуская рэспубліка" ці ў касцёле Божага Цела ў Нясвіжы.

Пра тое, колькі каштуе праца па вырабе нечага падобнага, можна даведацца ў самым нізе агульнай выявы сайта, у рубрыцы „Кошты".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

## 110 гадоў з дня нараджэння

# Антона Адамовіча

Беларускі літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, празаік, доктар філалогіі Антон Адамовіч нарадзіўся 26 чэрвеня 1909 г. у Мінску. У 1920-я гг. пісаў пра творчасць сучасных яму беларускіх літаратараў, у тым ліку манаграфічнае даследаванне пра творчасць Максіма Гарэцкага. Першая друкаваная праца — рэцэнзія на зборнік Валерыя Маракова „Пялёсткі" („Чырвоны сейбіт", 1926). Уваходзіў у літаб'яднанне „Узвышша".

У 1928 г. Антон Адамовіч скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. Далей пачаў вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У 1930 г. арыштаваны па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Высланы ў горад Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку, дзе працаваў у навучальных установах. У 1935 г. тэрмін высылкі працягнулі яшчэ на 2 гады. Не выключана, што шок ад падаўжэння тэрміну высылкі быў для Адамовіча настолькі моцны, што ён стаў супрацаваць з „органамі". Што Адамовіч мучыўся ў высылцы дэпрэсіяй, пацвердзіў падчас допыту ад 13 жніўня 1937 г. Генадзь Багдановіч.

У 1938 г. Антон Адамовіч быў вызвалены, у ліпені вярнуўся ў Мінск. Скончыў БДУ, працаваў настаўнікам у сярэдняй школе. У час Другой сусветнай вайны заставаўся ў Мінску. З ліпеня 1941 г. — адзін з арганізатараў выдання шэрагу беларускіх газет, часопісаў, кніг. Узначаліў выдавецкі аддзел, створаны пры Мінскай гарадской управе для арганізацыі выпуску газет. Адначасна — галоўны рэдактар Краявога выдавецтва „Менск", кіраваў Беларускім навуковым таварыствам. Працаваў у „Менскай (Беларускай) газэце". Быў сябрам Галоўнай рады Беларускай народнай самапомачы. У канцы 1943 г. пераехаў у Германію. Працаваў у газеце „Раніца" (Берлін). У лагеры для перамешчаных асоб выдаваў газеты „Вядамкі", „Бацькаўшчына", часопісы „Конадні" і „Сакавік".

Адамовіч напісаў шматлікія рэцэнзіі на кнігі беларускіх аўтараў, пісаў прадмовы да эміграцкіх выданняў, падрыхтаваў значны шэраг угодкавых артыкулаў. Надрукаваў шэраг антыбальшавіцкіх рэфератаў, артыкулаў, кніг — „Яны зноў на Беларускай зямлі" (1944), „Арыентацтва — хвароба беларуская" (1944), „Очерки истории большевизма в Белоруссии" (1954), „Саветызацыя беларускай літаратуры" (1955), „Пантэон пісьменнікаў БССР" (1959). У газеце „Бацькаўшчына" апублікаваў манаграфію „Званар Адраджэння — Вацлаў Ластоўскі" (1954). Нацыянальнай ідэяй прасякнуты такія празаічныя творы Антона Адамовіча, як „Афрадыта ОСТ", „Каханы горад" і іншыя.

З 1960 г. жыў у ЗША. Тады ж стаў адным з кіраўнікоў радыёстанцыі „Свабода". Працягваў пісаць гісторыка-літаратурныя і крытычныя артыкулы: „Алесь Гарун: жыццё і творы" (1961), „Лірнік краіны ветлай (З успамінаў пра Міколу Равенскага)" (1961), „70-годдзе Максіма Гарэцкага" (1963), „Да пытання пра месца Францішака Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры" (1964-1965), „Да ўгодкаў Цёткі..." (1966), „Аспекты <...> творчасці Наталлі Арсеневай" (1971), „90 год Купалы й Коласа" (1972), „Успаміны <...> памяці Лявона Савёнка" (1974), „Успаміны пра Уладзіміра Дубоўку" (1976), „Наталля Арсеннева" (1979) і шмат іншых. Антон Адамовіч — аўтар шматлікіх прац па гісторыі, эканоміцы, культуры Беларусі, а вывучэнне яго творчай спадчыны (каля 250 прац, у тым ліку на англійскай, нямецкай і рускай мовах) яшчэ наперадзе.

Памёр Адамовіч 12 чэрвеня 1998 г. у ЗША. Пахаваны на беларускай частцы могілак у Іст-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## II LO Z DODATKOWĄ NAUKĄ JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO W HAJNÓWCE

## II ЛІЦЭЙ З ДАДАТКОВЫМ НАВУЧАННЕМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ГАЙНАЎЦЫ

www.bialorushajnowka.pl

Dyrekcja i Rada Pedagogiczna Liceum Ogólnokształcącego z DNJB w Hajnówce oraz Komitet Organizacyjny serdecznie zapraszają Absolwentów naszego liceum z lat 1949 - 2010 do udziału w IV Zjeździe Absolwentów, który zaplanowany został na 28-29 września 2019 roku z okazji obchodów 70 – lecia Szkoły. Przewidujemy atrakcyjny program integracyjny, prezentację dorobku szkoły, bal absolwentów z koncertem, ognisko.

Osoby zainteresowane uczestnictwem proszone są o dokonanie zgloszenia oraz wpłatę do 30 sierpnia 2019 r. na konto :

Bank BNP Paribas: 63 1600 1462 1821 7925 0000 0001

w tytule przelewu prosimy wpisać :
imię i nazwisko ( również nazwisko panieńskie (dotyczy tylko Pań) ) klasa , rok ukończenia szkoły.

Koszt :
**opcja I** : 100 zł część oficjalna, poczęstunek ( szwedzki stół ), zdjęcie zbiorowe, licealny śpiewnik, przypinka zjazdowa
**opcja II** : 240 zł część oficjalna oraz bal absolwentów
**opcja III** : 270 zł część oficjalna, bal absolwentów oraz ognisko

Po dokonaniu przelewu prosimy o wysłanie informacji na adres email: zjezdinfo@gmail.comz aktualnym imieniem i nazwiskiem, adresem oraz z numerem telefonu. Powyższe dane pozwolą nam na sprawną organizację przedsięwzięcia, kontakt w razie potrzeby jak i również kontakt gdy będziemy organizować kolejny Zjazd.

Z chęcią odpowiemy na wszelkie pytania Państwa ( prosimy o kontakt poprzez Facebook https:/www.facebook.com/events/468282110378517/ lub poprzez adres email: zjezdinfo@gmail.com

tel. do szkoły: 85 682 24 96

НАШ ЛІЦЭЙ
70 ГАДОЎ

IV ZJAZD ABSOLWENTÓW
28–29.09.2019г
IV З'ЕЗД ВЫПУСКНІКОЎ

## Адгаданка

**1.** колючы орган пчалы, **2.** невялікая гара, вулкан на Далёкім Усходзе, **3.** пінская рака, **4.** тонкая рыса, характэрная лінія, у якой... тры, **5.** сасок у млекакормячай жывёлы, **6.** прозвішча нямецкага пісьменніка Арнальда ("Вялікая вайна белых людзей") і аўстрыйскага Штэфана ("Марыя Сцюарт"), **7.** травяністая расліна сямейства ароідных, **8.** пара сутак з месячным асвятленнем, **9.** свойская жывёла, з якой воўна, **10.** яўрэйская навучальная ўстанова, **11.** пара для душы, **12.** галоўны горад аўстрыйскай Штырыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | 2 | 3 | |
| | | 4 | | 5 | 6 | 7 | | | | 8 |
| 9 | | | | 10 | | | 11 | | | |
| | | | | | | | | | | 12 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**
Дула, дуля, тысяча, жаданне, выява, арыя, Берут, горад.
Рашэнне: **Сытая яда жывату бяда**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

## 30.06 — 06.07

**(22.03. — 20.04.)** Многа будзе адбывацца ў працы, яшчэ больш дома. Блізкія ацэняць цябе належным чынам і будуць апладзіраваць тваім дзеянням. Адвага і самаўпэўненасць. Пакажаш, што зможаш. Хтосьці з радні можа паламацца, прыйдзецца дапамагчы. На працы канкурэнцыя з табой не выйграе.

**(21.04. — 21.05.)** Амбіцыя схіліць цябе да рызыкі. Але ў выпадку праблем упадзеш на чатыры лапы. Будзе крыху балагану але справішся. У пачуццях раптоўная змена планаў. Наведай сваякоў. У фірме будзеш трымаць усе шнуркі ў сваёй далоні, усё будзе па тваёй думцы, падзаробіш. У здароўі і красе не кожная рэвалюцыя пойдзе табе ў карысць.

**(22.05. — 22.06.)** Дасягнеш немалой карысці ў прафесіі. Пашчасціць табе ў кампанейскіх кантактах. Будзеш мець адвагу і энергію ў рызыкоўных мерапрыемствах. Але будзеш хутка змяняць сваю думку і цяжка будзе табе давесці штосьці да канца. Не час на флірты. Важныя сямейныя ўрачыстасці. Кашалёк патаўсцее. Энергія будзе цябе проста распіраць, дык забудзеш пра нямогласці.

**(23.06. — 23.07.)** 1-3.07. ўдадуцца табе найбольш смелыя планы. Але ў першым тыдні ліпеня да цябе будзе адмоўна настаўленае атачэнне. Многа ўзбагачаючага цябе досведу. Навучышся новаму. Даведаешся, што маеш права на каханне, але і адпачынак ды час толькі для сябе. Могуць цябе востра патрактаваць радня і сябры. Інвестуй у вучобу. Форма залежыць ад цябе; дбай аб сябе, асабліва аб свой пазваночнік.

**(24.07. — 23.08.)** Справішся з кожнай справай, хопіць табе энергіі на ўсё ды баявітасці. Водпуск, на жаль, пачакае. Не шыкуецца ані бестурботны адпачынак, ані вялікае каханне. Але справішся са сваімі абавязкамі. Хаця хатнія будуць мець прэтэнзіі, што мала аказваеш ім увагі, а больш займаешся работай. У прафесіі пойдзеш уперад як бура. Ільвы з І дэкады могуць падумаць аб сваёй фірме. Марс намовіць цябе да фінансавай рызыкі, з удачай. Будзеш рэагаваць лішне эмацыянальна, сцішвайся, напрыклад, спортам.

**(24.08. — 23.09.)** Замест спяшацца, нервавацца і падганяць іншых, навучышся жыць у спакоі і на большым «люзе». Канікулярны настрой, але яшчэ не адпачынак. Да падарожжаў і набывання ведаў заахвоціць цябе Меркурый. А Нептун асцеражэ цябе перад асобамі з фальшывымі задумамі. У пачуццях больш чуласці. Самотныя Дзевы няхай наставяць свае любоўныя радары 1-3.06. У фірме шмат будзе адбывацца за тваёй спінай, будзеш ведаць хто інтрыгуе, але цяжка будзе знайсці доказы. Варта запісацца на нейкія курсы ці абучэнні. Не натужвайся, адпачні ад штодзённасці.

**(24.09. — 23.10.)** Нішто не прыйдзецца табе лёгка. Прадбачваюцца складанасці. На шчасце, хопіць табе веры ў свае сілы і практычнасці, дык дойдзеш свайго. 1-3.07. цяжкае і нервовае шуканне загубленых рэчаў. Час на любоўныя гульні. Слухай сваёй інтуіцыі. У фірме не хваліся. Для здароўя найлепшы рух.

**(24.10. — 22.11.)** Да мэты пойдзеш найцяжэйшай дарогай. А з тымі, каго кахаеш, правядзеш наймілейшыя хвіліны. Час спрыяе важным рашэнням з доўгатэрміновымі вынікамі. Спраўна падгоніш хвасты на працы і ў парадках. Важныя здарэнні ў пачуццёвым жыцці (6.07. мілы любоўны сюрпрыз). На працы шыкуюцца немалыя прыбыткі, можаш таксама яе змяніць або перакваліфікавацца. Патрабуеш часу толькі для сябе.

**(23.11. — 22.12.)** Не можаш увесь час ухіляцца. Мусіш апынуцца перад рэальнасцю і змерыцца з праблемамі. Абмінеш праблемы, а калі ў іх уваलішся, хутка ад іх вызвалішся. Ніякі высілак не будзе табе страшны. Адчуеш, што цябе кахаюць. Застрахуй жыллё. На працы не адкладвай нічога на пасля. Настрой паправіць шакалад.

**(23.12. — 20.01.)** Вырашыш праблемы сяброў і палагодзіш сямейныя канфлікты. Не пагражае табе самота. Будзеш у цэнтры ўвагі. Смела і цярпліва пойдзеш да мэты. 1-3.06. можаш вельмі моцна закахацца. У фірме можа паявіцца змаганне за ўладу; гуртуй вакол сябе саюзнікаў. Не еж нясвежага; цікуе сальманела.

**(21.01. — 19.02.)** Апануеш лішнія эмоцыі — выйдзеш на плюс на працы і ў каханні. Магчымыя неспадзяваныя здарэнні. Людзі будуць табе дзейнічаць на нервы. Але канфлікты палагодзяцца, і ўсе сітуацыі пойдуць на тваю карысць. Самотныя Вадалеі аж да 28.07. нікога не праверацць дзеля пачуццяў. У фірме накінеш шалёны тэмп, але азавецца таксама канкурэнцыя і нават будзе кідаць табе калоды пад ногі. Спяшайся памалу, а лепш спыніся і адпачні.

**(20.02. — 21.03.)** Сімпатыя атачэння. Прыцягнеш да сябе шчасце і зычлівых людзей. Да працы падыдзеш творча. Будзе вельмі добра ў каханні. 1-3.07. варта кудысьці выбрацца разам. На працы не рызыкуй (увесь ліпень). Рыбы з ІІ дэкады 1-3.07. дыхнуць з палёгкай — фірму пакіне фарбаваны ліс, паправіцца атмасфера. Калі маеш сваю фірму, у ліпені выйдзеш на сваё.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# На Міжземнае мора

Шматкультурная гісторыя пакінула след у кіпрскай тапаніміі. Галоўны горад Кіпра вядомы ў свеце пад назвай Нікасія, мае і іншую — Леўкасія. Гэтак жа і Фамагуста — Амахостас. І Лімасол — Лемесас...

След антычнай гісторыі бачны з акон аўтобуса, які курсіруе між Ларнакай і, менавіта, Лімасолам, гэта Амафус з антычнымі калонамі храма мо грэчаскай Афрадыты, а мо і фінікійскай Іштар. Дзенідзе з узгоркаў выглядаюць маляўнічыя царкоўкі. А сам Лімасол вітае наведвальніка кранамі і гарызантальнай паласой новых высотных збудаванняў і прынадамі да іх — абяцаннем віду на мора. Той від на мора здаецца быць такой магутнай абменнай валютай, якая мае раскашэліць для будаўнікоў банкаўскія скарбы ландшафтных летуценнікаў. Аў Лімасоле ёсць таксама і іншы ландшафтны козыр — гэта недалёкія горы Троадас...

У горадзе ўвагу прыцягвае не будаўнічая навізна, але даўніна, у тым ліку храмы. Бо багатая гісторыя пакінула і такое ж багацце несеных з сабою гэтых устаноў. Побач царквы святога Антонія, узведзенай у 1830 годзе, высіцца мінарэт мячэці Джэдзіт, пабудаванай у 1825 годзе. Ага Копрулу адпраўляўся на вайну і даў зарок, што калі вернецца жывым, тады пабудуе мячэць. Вярнуўся і стрымаў абяцанне. Ёсць і менш відныя каплічкі, напрыклад капліца святой Тэклі займае памяшканне, у якім у нашых умовах была б маленькая крама. У капліцы некалькі ікон святой, якія на калені не кідаюць...

Недалёка кафедральны сабор Ая-Напа ў гонар Багародзіцы. Паводле легенды там была знойдзена яе ікона. Гісторыя крыху падобная на нашы такія ж месцы. Сабор узведзены на зломе XIX і XX стагоддзяў. Тут стары цэнтр горада і ў ім таксама Вялікая мячэць, пабудаваная на месцы каталіцкага храма пасля заваёвы Кіпра туркамі. Недалёка, у 1950-х гадах, быў пабудаваны сабор Усецарыцы; на яго сцяне табліца з інфармацыяй на грэчаскай, украінскай, расійскай і англійскай мовах пра першы візіт на Кіпры 19 верасня 1726 года кіеўскага паломніка Васіля Барскага.

Прозвішча паломніка выводзіцца ад вядомага раней на Падоллі горада Бар, дзе ў мінулым пражывалі ягоныя продкі. Беручы пад увагу шматлікія там войны, яны перабраліся ў больш бяспечны Кіеў. Бацька Васіля паспяхова займаўся гандлем і такую ж кар'еру прабдачваў сыну. Але апошняга такі бізнес не цікавіў — ён быў цікавы шырокага свету. І ўцёк ад бацькі; апошні выслаў нават за ім пагоню, але беспаспяхова. Цераз Львоў і Вену дабраўся Васіль у Венецыю. Адтуль зайшоў у Бары пакланіцца мошчам святога Мікалая і цераз Неапаль, Рым і Фларэнцыю вярнуўся ў горад святога Марка. У Венецыі цяпер ён уладзіўся на карабель, які адпраўляўся ў напрамку Грэцыі: „Яко изъшедшимъ намъ на море перваго дне и пловуща на самой превеликой широте и глубине его, видехомъ точію небо и воду морскую, и мнится бити, яко весь светъ затопе и несть ничтоже кроме води и неба. Сице отъ превеликой широти мнится бити, яко ужасно и смотрети, найпачеже не бивающимъ на немъ; но, Божіимъ смотреніемъ, понеже бисть тишина, не вредяше ничтоже. Въ утрее же, егда возмутишася волни на море и начаша носити и колебати корабль дозела, яко множицею вода вливашеся въ корабль, и бисть страхъ велій, но не всемъ, найпаче же мне, первій разъ сущему на море. Возмутиша же ми сердце и завратися глава, яко едва не одурехъ, не можахъ бо ни внутрь, ни верху корабля седети, омдлевающе и (прости ми, разумній читателю) не могій стерпети, блевахъ пятерицею до зела тако, не имій чимъ, едину некую зелень, аки желчь, испущахъ. Азъ убо воздихахъ, друзіи же смеяхуся, глаголюще, яко не бойся, будеши последи лучше здравъ, нежели прежде, и немощенъ тогда бехъ чрезъ весь день. Последи же, егда отпусти ми мало, глаголаху кораб-ленници, яко всякое море отъ натури своея не можетъ въ себе ничтоже нечисто держати, аще бо би кто имелъ трутизну пятолетну, или десятолетну, или Богъ весть како застарелу, найпаче же тотъ, иже не бивалъ, егда пойде на море, вся измещетъ и будетъ здравъ. Паки море не любитъ грешна человека, найпаче въ грехахъ смертельныхъ сущаго; того ради все христіяне, имущіи плисти моремъ, аще не причащаются, то поне исповедуютъ грехи своя".



Мост закаханых



Царква св. Антонія ў Лімасоле



Вулічка каля Вялікай мячэці ў Лімасоле



Сабор Ая-Напа ў Лімасоле



Царква ў Ая-Напе

Аб гаючай моцы мора пераканаўся і я. Менавіта ўсю вясну мучыў мяне з розный сілай грып. І на Кіпр падаўся я са слабым, але стрэсуючым болем горла. І ў першы ж там вечар прадзьмуў мяне яшчэ халодны вецер ад мора. І ўстрывожыўся я, што прыйдзецца сур'ёзна прыхварэць у далёкай зямельцы. Але нічога такога не сталася, а пасля купання наступнага дня ў моры ачуняў я ад усяе тае дакучлівасці, якой не мог пазбыцца дома...

Васіль Барскі зведаў амаль увесь Левант. Быў ён у Егіпце, на Сінаі, на Святой Зямлі, у Сірыі, у Кападокіі, на Хіосе і Патмасе, на Афоне, у Афінах і Канстанцінопалі. З Канстанцінопаля цераз Бухарэст вярнуўся ён у родны Кіеў. Закончыўшы сваё міжземнаморнае падарожжа, пажыў ён яшчэ пяць тыдняў і адправіўся ў чарговае, апошняе, у патойбаковае. Пакінуў ён скрупулёзнае апісанне манастыроў Афона, а таксама і манастыроў Кіпра, у тым ліку і манастыра ў Ая-Напа: „Монастиръ оний немноги иматъ иноки, точію шесть или седмъ, изначала же бистъ болшій всехъ, якоже слышится, и нине простерті-емъ зданій паче иныхъ болшій естъ. Стоитъ недалече брега морскаго, яко стадію едину, внутръ единаго малаго села, при отвалине гори, при единой пещере, на месте равномъ и веселомъ, при воздусе здравомъ и при воде текущой, яже течетъ издалече отъ горъ каменнозданнимъ путемъ даже внутръ монастиря и проходитъ сквозе монастиръ. Посреде же монатиря обретается фонтана, си есть горе скачущая вода, въ великой чаши каменной, яже естъ покровенна каменною каплицею, съ главою; окрестъ же великое подворіе, полное древесъ садовнихъ, найпаче же лимоновъ и помаранчовъ, таможе и кипарисъ лепотній предъ двери церкви стоитъ. Церковъ же точію съпреди создана, прочее же пещера самородна, якоже отъ изображенія, еже на хартіи, можетъ всякъ уразумети. Сего ради и монастиръ наречеся αγια ναπα, си есть святая пещера, ибо изначала въ оной пещере некій образъ чудотворній обретеся, иже и нине естъ, и его ради въ имя пресвятія Богородици создася монастиръ лепъ и пространенъ, отъ некіихъ знаменитихъ бояръ христіянскихъ, прежде власти Турецкой". Мяркуецца, што згаданая ікона апынулася ў манастыры ў час іканаборства ў VII—VIII стагоддзях. Паводле адной з легенд, хадзіў там паляўнічы і ягоны сабака стаў брахannем клікаць свайго гаспадара, пабачыўшы ікону; з таго часу месца сталі наведваць вернікі. Паводле іншай легенды, у пячору ўцякла дачка венецыянскага вяльможы, якой бацькі не дазвалялі выйсці замуж за хлапца неарыстакратычнага роду; пазней там, дзе яна была пахавана, быў пабудаваны жаночы манастыр. Вёска побач манастыра ўзнікла ў палове XVIII стагоддзя; заснавалі яе жыхары Салонік, якія ўцяклі са свайго горада перад эпідэміяй. Будынак манастыра ў цяперашнім кшталце ўзвялі венецыянцы каля 1400 года. Зараз у ім з XIX стагоддзя няма манашак, а набажэнствы адбываюцца ў нядаўна пабудаванай побач царкве. А ў манастыр прыязджаюць пад Пакроў Багародзіцы жанчыны цяжарныя і тыя, якім складана зацяжарыць.

Ая-Напа яшчэ паўвека таму была такой жа малой вёскай, як у час Васіля Барскага, аддеглай каля дваццаці кіламетраў ад Фамагусты. Фамагуста пасля 1974 года апынулася пад турэцкім панаваннем, а гэта дало шанс Ая-Напе. Цяпер тут бурна развіваецца турызм, на марскім узбярэжжы растуць гасцініцы, якія вабяць ахвотных віду на мора. Недалёка, на мысе Грэка, мора вырабіла ў скалах адмысловыя пейзажы. Адным з найбольш вядомых з'яўляецца г.зв. мост закаханых — гэта выдзеўбаная марскімі хвалямі каменная арка над вадзяной пячорай. Сюды прыязджаюць вясельныя пары — дзеля шчасця...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 26